


№ 8 (845) 26 лютага 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Героям слава!

Майдан быў гатовы паміраць за ідэі, а байцы Януковіча, наадварот, паміраць за яго не хацелі.





# Паваротныя моманты Майдану

**18 лютага. Самаахвярнасць дэманстрантаў**

У фінале Майдану было чатыры паваротныя моманты. Спачатку 18 лютага ўлады справакавалі сутычкі і паспрабавалі разагнаць Майдан сілай.

Аднак некалькі тысяч людзей вытрымалі суткі аблогі.

Мільёны людзей ва ўсім свеце дзякуючы магчымасцям інтэрнэту назіралі за гэтым у жывым эфіры.

Спецгрупа «Альфа» падпаліла штаб дэманстрантаў — 9-паверховы Палац прафсаюзаў. Дэманстранты хаваліся за сцяной агню. Праз увесь Майдан запалілі вогнішчы з шынаў. Калі шыны перагарэлі, у агонь пайшлі каркасы палатак. Тым часам на сцэне пад свіст гранат працягвалі маліцца святары, выступаць спевакі.

Калі дэманстранты датрымаліся да ранку, стала ясна, што штурм праваліўся.

У Януковіча не аказалася дастаткова сілаў для разгону. А армія адмовілася пайсці супраць народу. Янукoвіч звольніў кіраўніка Генштаба, але было позна. Дарэчы, звольнены генерал Замана праз тры дні стане в.а. міністра абароны пасля ўцёкаў Януковіча.

Рэакцыя ў рэгіёнах на кроў у Кіеве была такая рашучая. У першыя ж вечар дэманстранты ў цэнтры і на захадзе краіны захапілі дзясяткі адміністратыўных будынкаў і нават вайсковых частак са зброяй, якую тут жа пачалі перапраўляць у Кіеў.

**20 лютага. Схватка**

Доўгі час ані адзін, ані другі бок не ўжываў агняпальнай зброі публічна. Толькі 20 лютага адкрылі агонь снайперы. Імаверна, гэта былі байцы крымскага спецназа. Пры гэтым яны спрабавалі падпаліць Кансерваторыю, прыстасаваную дэманстрантамі пад медпункт.

Байцы Майдану не толькі не разбегліся пад агнём, а працягвалі наступаць і ўжылі зброю ў адказ. Гэта выклікала паніку сярод сілавікоў і тыя пачалі адступаць.

Майдан узяў у палон 60 байцоў. Але на вуліцах Інстытуцкай і Грушэўскага палегла больш за 50 маніфестантаў.

**19—21 лютага. Перамовы**

Міністры замежных спраў Польшчы, Нямеччыны і Францыі вылецелі ў Кіеў, як толькі там праліласся вялікая кроў. І не пакінулі Украіны, пакуль не прымусілі бакі падпісаць пагадненне. Без іх пасадзіць Януковіча і Майдан за адзін стол проста не было каму.

Угаварыць Януковіча падпісаць аказалася прасцей, чым дэманстрантаў. Пасля 18—20 лютага ён зразумеў, што справа пахне керасінам.

Пасярэднікам удалося ўставіць у тэкст пагаднення пункт пра адвод спецназа з цэнтра Кіева. Толькі гэта, лічылі яны, магло даць гарантыю, што баёў не будзе.

Як пагадненне было падпісана, байцы Януковіча з радасцю і неадкладна сталі выязджаць з зоны процістаяння.

Да вечара 21 лютага ў цэнтры засталася толькі самаабарона Майдану і нешматлікія спецпадраздзяленні аховы Януковіча і СБУ.

Янукoвіч жа зрабіў тут сваю апошнюю памылку. Ён паверыў, што пагадненне будзе выканана і час дазволіць яму выхаласціць заваёвы рэвалюцыі.

**21 лютага. Сотнік, які пераламіў хаду гісторыі**

Агонія рэжыму магла расцягнуцца на месяцы. Але здарылася вось што. Калі лідары апазіцыі ўвечары са сцэны Майдану пад свіст прысутных знаёмілі людзей з вынікамі пагаднення, сотнік (кіраўнік сотні самаабароны) са Львова Уладзімір Парасюк праравўся да сцэны. Якія пагадненні, сказаў ён, калі ўчора палеглі людзі, калі загінуў мой пабрацім, у якога засталіся жонка і малое дзіця, сказаў ён? Мы даём Януковічу час да 10.00. Або ён сыходзіць, або будзе штурм са зброяй у руках.

Майдан выбухнуў авацыяй. Гэта быў той сігнал, якога людзі чакалі месяц.

Большасць у Вярхоўнай Радзе і мэр Кіева паспяшаліся перайсці на бок паўстанцаў. А Янукoвіч спешна збег са сталіцы.

Каля поўначы стала ясна, што ўсё скончана. Байцы самаабароны без усякага супраціву ўзялі пад ахову найважнейшыя дзяржаўныя аб'екты. Дзяржаўнае ТВ па ўласнай ініцыятыве спыніла прапагандысцкія перадачы і ўключыла жывую трансляцыю з Майдану.

Майдан быў гатовы паміраць за ідэі, а байцы Януковіча, наадварот, паміраць за яго не хацелі. Гэта і перадвызначыла вынік процістаяння.

Фатальнай памылкай Януковіча аказалася рашэнне страляць у дэманстрантаў.

**Мікола Бугай**

## Майдан выставіў патрабаванні да новых уладаў Украіны

**Майдан гатовы да сілавой абароны здабыткаў паўстання.**

Членамі ўрада народнага даверу не могуць быць удзельнікі спісу сотні самых багатых людзей Украіны і кіраўнікі органаў выканаўчай улады або работнікі адміністрацыі прэзідэнта, якія займалі гэтыя пасады з пачатку 2010 года. Такія крытэры адбору сфармулявала Кола народнага даверу.

Па словах прадстаўніка Аўтамайдану Сяргея Паяркава, акрамя яго, у Кола таксама ўваходзяць прафесар медыцыны Вольга Багамолец ад медыкаў Майдану, Дзмітрый Яраш ад «Правага сектара», праваслаўны ўладыка Стэфан ад духоўнай рады Майдану, Алег Міхнюк ад воінаўафганцаў, Уладзімір В'ятровіч ад кааліцыі недзяржаўных арганізацый «Грамадскі сектар» і спевакі Руслана Лыжычка і Святаслаў Вакарчук.

Сярод іншых патрабаванняў — досвед працы ў дадзенай сферы мінімум 7 гадоў, недатычнасць да парушэнняў правоў чалавека і адсутнасць інфармацыі аб карупцыі.

«Кожны член урада павінен атрымаць адабрэнне Майдану», — падкрэсліваецца ў дакуменце.

«Мы патрабуем не проста ўрада, а ўрада народнага даверу, з незаплямленай рэпутацыяй, а не партыйных функцыянераў», — падкрэсліваецца ў заяве Кола.

**Сяргей Гезгала**

**Ахвяры**

Усяго загінулі 90 чалавек, не менш за 726 было паранена. Сярод забітых было 74 дэманстранты і 16 спецназаўцаў.

Самым маладым сярод забітых дэманстрантаў быў Назар Вайтовіч, 17 гадоў, студэнт-трэцякурснік кааператыўнага каледжа ў Цярнопалі.

Самым старым сярод забітых дэманстрантаў быў 73-гадовы Якаў Зайко з Жытоміра, былы народны дэпутат Украіны (1990-1995).

Адзінай жанчынай, што загінула, была Дваранец Антаніна, 62-гадовая жыхарка горада Бравары (Кіеўская вобласць). Яе жыццё скончылася на барыкадзе на вуліцы Інстытуцкай, каля метро «Хрышчацік».

**Чаму Янукoвіч быў такім нерашучым?**

Пад канец яго праўлення ў пана атамана скончыўся залаты запас. Золатавалютныя рэзервы знізіліся з 36 да 17 мільярдаў долараў. Каб стачыць канцы з канцамі, Украіне трэба 35 мільярдаў долараў у наступныя два гады. Янукoвіч разумеў, што ў выпадку разгону пратэстаў ён застанецца з голым задам, і пратэсты спалахнуць з новай сілай.



**Уладзімір Парасюк — відэааператар са Львова, які першы рашыўся сказаць: даём Януковічу час да ранку, або будзе штурм. На Майдане ён быў разам са сваім бацькам. «Трэ было спыніць палітыканства і перамовы з тэрарыстам. Бо Янукoвіч — тэрарыст», — кажа Парасюк. «Рэжым мы зламалі, мы перамаглі. Зараз нам трэба наогул сістэму мяняць у дзяржаве», — кажа Парасюк.**



**Рэкамендуем**

***Жуе Беларусь***

У Мінску прайшло беларускамоўнае стэндап-шоу — відэа

***Настальгія па Рэчы Паспалітай,***

або Жаданне некаторых жыць у бяскрайняй дзяржаве

**Чытайце на nn.by**

**Апытанне на nn.by**

**Ці ўдасца Расіі раскалоць Украіну?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 286 | 10% |
| Не | 2019 | 69% |
| не расколе, але цэнамі на газ і блакадай паставіць на калені | 598 | 21% |

Прагаласавала 2903 чалавекі

**Самае чытанае за 19-26 лютага на nn.by**

1 Паўстанне ў Кіеве

2 Першакурсніца БДУ загінула — з гематомамі, атрыманымі не ад збіцця

3 Больш за 1,2 млн чалавек патрабуюць адняць у Сотнікавай золата Алімпіяды

4 У Сочы казакі адлупцавалі бізунамі удзельніц Pussy Riot

5 Невядомыя развесілі вялікія бел-чырвона-белыя сцягі ў цэнтры Мінска

6 За акцыяй салідарнасці з Украінай у Мінску назіраюць 10 «ціхароў» і нарад спецназа

7 Настальгія па Рэчы Паспалітай, або Жаданне некаторых жыць у бяскрайняй дзяржаве

8 Лукашэнка: Я ж Домрачавай усю гонку раскладў!

9 Украінская біятланістка: Расійскія заўзятары абражалі, прыгадвалі нам вайну

10 Беларускі бандыт пачатку ХХ стагоддзя — унікальнае фота

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 8 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 356-98-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу даклaдна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

Пры аплаце ў банку ці на пошце, бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату». Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Іларыёнаў: **Украінскі план Пуціна праваліўся**

Сітуацыя ва Украіне пачала стабілізавацца, а пагроза ваеннага ўмяшання з боку Расеі істотна паменшала.

Так лічыць былы дарадца Пуціна, а цяпер — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута Катона Андрэй Іларыёнаў, перадае ўкраінская служба **«Голаса Амерыкі»**.

«У цэлым, гэта, безумоўна, правал палітыкі Пуціна на ўкраінскім кірунку. Шчыра скажам: гэта правал. Гэта правал таму, што Пуціну пакуль не ўдалося дасягнуць ні адной з тых мэтаў, якія ён ставіў перад сабой і сваімі падручнымі на ўкраінскім кірунку. Стратэгічная задача Пуціна заключалася ў тым, каб узяць пад свой кантроль або ўсю Украіну або нейкую яе частку.

Проста ўсталяваць такі кантроль ва ўмовах мірнага часу, ва ўмовах нейтральнага ці хаця б проста некатастрафічнага развіцця было немагчыма. Таму трэба было справакаваць Украіну на крызіс, перш за ўсё, эканамічны. Гэтым займаўся Пуцін і яго падручныя з лета 2013 года. Затым па стандартнай схеме гэты эканамічны крызіс стаў узмацняцца замежна- і ўнутрыпалітычным крызісам, выкліканым непадпісаннем пагаднення з Еўрасаюзам.

Пры дасягненні глыбокай стадыі гэтага крызісу ў справу ўступала б аперацыя па федэралізацыі Украіны. У адказ на просьбы кіраўнікоў асобных рэгіёнаў аб дапамозе з боку Расеі можна было б, кіруючыся нібыта нападамі на рускамоўных жыхароў, рускіх, расійскіх грамадзян, пачаць выкарыстоўваць сілавыя сродкі.

Пуцін моцна расчараваны. Асабліва з-за таго, што ва Украіне не было ўведзена надзвычайнае становішча. Уся машына дзяржаўнай прапаганды Расіі была пастаўлена на старт, быў падрыхтаваны шэраг тэлесюжэтаў і публікацый у разліку на тое, што будзе ўведзена надзвычайнае становішча. Паспеў нават выйсці ў эфір фільм пра тое, як будзе душыцца фашысцкі мяцеж ва Украіне з дапамогай надзвычайнага становішча.

Мне цяжка знайсці адэкватныя словы, каб апісаць тое, што зрабілі людзі, якія стаялі на Майдане ў апошнія 3 месяцы і асабліва ў апошнія 3 дні.

План Пуціна ў дачыненні да Украіны сарвалі некалькі фактараў — і ціск Захаду, і пераход дэпутатаў-рэгіяналаў на бок народа, і пераход часткі сілавікоў на бок народа.

Але галоўная прычына, якую ў Маскве не змаглі прадказаць, — гэта гераізм украінскага народу. Дзякуючы гераізму, самаахвярнасці, дзякуючы вельмі высокай цане, якую ўкраінцы заплацілі сваімі жыццямі, удалося сарваць гэты план. Без гэтай самаадданай барацьбы не на жыццё, а на смерць, гэтага поспеху не было б.

Хоць гарачая фаза канфлікту мінула, гэта не азначае, што Пуцін адмовіўся ад сваіх планаў. Украіна павінна быць гатовая да гэтага».


Андрэй Іларыёнаў.


Украінцы не забудуць, на чыім баку была Масква.

**Лукашэнка: Украіна павінна захаваць цэласнасць**

«У іх свае праблемы. Майдан для нас не навіна. Гэта ж не першы раз, і, вы ведаеце, з першымі майданаўцамі (Віктар Юшчанка ды іншыя) я да гэтага часу дружны. У іх свае пытанні, у нас — свае, і мы будзем на гэтым будаваць сваю палітыку», — сказаў беларускі лідар. «У нас адзіныя мэты па Украіне. Украіна павінна быць цэласнай».

**Расія пагражае, што Мытны саюз абмяжуе пастаўкі харчавання з Украіны**

«Мы з беларускім калегам вельмі заклапочаны сітуацыяй, якая складваецца ва Украіне, і не выключаем, што можам увесці абмежаванні на ўвоз прадукцыі высокай ветэрынарнай і фітасанітарнай рызыкі з гэтай краіны», — прыводзіць словы старшыні Рассельгаснагляду Сяргея Данкверта «Інтэрфакс».

**МЗС Расіі патрабуе ад Украіны вярнуць Януковіча да ўлады**

У Маскве сумняюцца ў легітымнасці дзеянняў Вярхоўнай Рады Украіны. «Выклікаюць глыбокую занепакоенасць з пункту гледжання легітымнасці дзеянні ў Вярхоўнай Радзе», — гаворыцца ў заяве расійскага МЗС.

«Узяты курс на тое, каб дыктатарскімі, а часам і тэрарыстычнымі метадамі здушыць нязгодных у розных рэгіёнах Украіны», — заявілі ў Маскве.

Расія пачала выдачу пашпартоў па палегчанай працэдуры ў Крыме.

**Намеснік кіраўніка МЗС: Галоўнае — каб мы працягнулі з Украінай**

«Мы жывём па суседстве, таму павінны будаваць з украінскім народам прагматычныя, блізкія, сяброўскія адносіны заўсёды», — заявіў намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Міхневіч.

**ЗША: магчымая інтэрвенцыя Расіі ва Украіне не адпавядае інтарэсам самой РФ**

«Мы хочам бачыць стабільную, квітнеючую, у тым ліку ў эканамічным плане, Украіну. І вось чаму мы ўсе павінны аб'ядначца і працаваць, каб убачыць, як мы можам дапамагчы падтрымаць гэтыя намаганні», — адзначыла прадстаўнік Дзярждэпартаменту Джэн Псакі.

**Краіны Еўрасаюза выказваюць сваю публічную падтрымку Украіне**

Паводле слоў Кэтрын Эштан, «прадастаўленне неабходных рэсурсаў дазволіць выканаць намечаныя планы». «Мы гатовыя падтрымаць Украіну і падаць іншым краінам сігнал, што ваша краіна не толькі вырашае праблемы мінулага, але і глядзіць наперад», — сказала яна.

# Хто такі Дзмітрый Яраш

Рэвалюцыя нараджае новых лідараў і герояў. 42-гадовы Дзмітрый Яраш стаў адным з самых заўважных персанажаў Майдану. Дужы, каротка стрыжаны, заўсёды ў вайсковай форме. Цяпер ён прэтэндуе на пасаду віцэ-прэм'ера, адказнага за сілавы блок.

Ягоны «Правы сектар» быў адной з галоўных рухачоў Майдану. Гэтыя хлопцы давалі адпор «беркутаўцам». Спачатку камянямі і петардамі, пасля ў іх з'явілася зброя. «У нас дастаткова пісталетаў, каб абараніць Украіну ад акупантаў», —казаў Яраш.

«Здабудзеш украінскую дзяржаву ці загінеш у барацьбе за яе», — так гучыць першы запавет украінскага нацыяналіста. На Майдане многія з іх сапраўды паўсталі перад такім выбарам — загінуць ці працягваць змаганне. Да гэтага многія ставіліся да нацыяналістычных арганізацый крыху паблажліва. Маўляў, хлопцы гуляюцца ў вайнушку, а як будзе сапраўдная заварушка, то навалюць у порткі. Скептыкаў у гэтым пытанні пасарамаціў.



«Правы сектар» — гэта канфедэрацыя нацыяналістычных арганізацый, у яе склад уваходзіць славутае ў 90-я УНА-УНСО, «Патрыёт Украіны», «Белы Молат», «Воля», «Трызуб». І ўзнікла гэтае ўтварэнне ў першыя дні Майдану. Першапачаткова лідара ў «Правым сектары» не было, але з падзеямі стала больш яскрава акрэсліваца постаць Дзмітрыя Яраша, лідара «Трызуба».

Ён родам з Усходняй Украіны, Днепрапятроўскай вобласці. Ад канца 90-х уваходзіў у патрыятычныя арганізацыі. Спачатку быў сябрам Руху (аналаг нашага БНФ). Паступленне на філфак Драгобычскага педуніверсітэта было вырашальным у лёсе Яраша.

Драгобыч — горад у Львоўскай вобласці, прынята лічыць радзімай арганізацыі «Трызуб» (гэта назва старажытнага ўкраінскага герба), якая ў барацьбе кіруецца прынцыпамі і запаветамі Сцяпана Бандэры. У Драгабычы тады выкладаў Васіль Іванішын, лідар і стваральнік «Трызуба». Дарэчы, адным з сяброў «Трызуба» быў будучы прэзідэнт Кіева-Магілянскай акадэміі Сяргей Квіт.

«Трызуб» ставіць перад сабой тры задачы: 1. Прапаганда ідэалогіі ўкраінскага нацыяналізму ў інтэрпрэтацыі Бандэры. 2. Выхаванне патрыятызму ў моладзі. 3. Абарона гонару і годнасці ўкраінскай нацыі любымі сродкамі. У 2007-м, пасля смерці Іванішына, менавіта Дзмітрый Яраш стаў новым правадыром арганізацыі.

Такімі, як Яраш, палохаюць на расійскіх тэлеканалах. Каравул, фашыст, бандэравец! На гэта мужчына адказвае: «Я не разумею нейкіх расісцкіх рэчаў. На Майдане за Украіну загінуў беларус, армянін з Днепрапятроўска. Яны мне большыя браты, чым украінцы, якія раскрадалі дзяржаву».

І яшчэ дадае: «Каля 40% сяброў «Правага сектару» — гэта рускамоўныя людзі. Ні пра якую прымусовую «ўкраінізацыю» мы не гаворым».

Лідар «Правага сектару» жанаты. Ён мае трох дзяцей — двух сыноў і дачку. Дачка ад самага маленства была ў «Трызубе». «Апошні раз сям'ю бачыў на Каляды. Яны ва Украіне, але давялося змяніць месца жыхарства», — кажа Яраш.

Дваццаць пяць гадоў ён быў у цяні, не выходзіў у вялікую палітыку. Майдан даў такую магчымасць. Сам Яраш не выключае, што «Правы сектар» можа перарасці ў палітычную арганізацыю.

«Тое, што ва Украіне раскол, — гэта вялікая хлусня. Януковіч, дай Бог яму здароўя, аб'яднаў краіну».

**Зміцер Панкавец**

# Тэлевядучы Сяргей Дарафееў: Ідэолагі хлусяць, Крэмль хлусіць!

Украіна ўстае. Паўстае і ідзе далей. Пад Украінай я, як і многія іншыя, разумею не палітыкаў, а народ. З Кіева піша **Сяргей Дарафееў**.

Яго адзенне яшчэ ў плямах крыві. Яго голас ахрып ад заклікаў. У вачах яшчэ слёзы ад бясконцых пахаванняў загінулых. На яго ботах сажа спаленых шын, а на твары — водбліскі памінальных лампад Майдану. Але ён народ, які яшчэ тры месяцы таму і не думаў, што ён так моцны. Вы толькі ўявіце гэта!..

І ніхто з тых, хто аддаваў загады страляць, хто шукаў у сваіх прыцэлах галовы актывістаў, ніхто з тых, хто краў вагонамі і выводзіў на Кіпр мільярды, хто хаваў сваю крывадушнасць пад мантыямі суддзяў, ніхто з іх так да гэтага часу і не зразумеў, што сваімі злачынствамі яны з'ядналі і кансалідавалі Украіну, як ніхто іншы. І хай Крэмль і іншыя зацікаўленыя і далей точаць зубцы сваіх пілаў.

Сёння Кіеў яшчэ стогне. Калі яго кулакі — Майдан, то яго сэрца — Міхайлаўскі манастыр.

Міхайлаўскі Залатаверхі мужчынскі манастыр — адзін з найстарэйшых манастыроў Кіева. Кляштар знаходзіцца над Дняпром усяго за некалькі хвілін хады ад Майдана. Менавіта ў Міхайлаўскім у лістападзе знайшлі прытулак студэнты — першыя пацярпелыя ад «Беркута». На падлозе галоўнага сабора, пад абразамі, ім тады заслалі пакрывалы, каб людзі маглі адпачыць і сагрэцца. Так забілася гэта сэрца... У студзені былі выбухі на Грушэўскага. Выратаванне — зноў у Міхайлаўскім. У лютым — снайперы на Майдане. Дапамогу параненым зноў аказвалі там жа.

Ніхто не кіраваў людзьмі зверху, аддаючы распараджэнні — дзе размяшчаць стомленых майданаўцаў на начлег, дзе іх перавязваць, як і чым карміць. Гэтая вайна самаарганізавала людзей...

Манастыр ператварыўся ў бальніцу. «Хуткія» залятаюць у арку званіцы і спыняюцца каля дзвярэй адной з прыбудовак храма. Там новых параненых чакаюць дактары — аперацыйная ўладкаваная проста ля алтара. Пакуль медыкі спыняюць кроў і вымаюць кулі, у цэнтры храма святары і семінарысты моляцца аб здароўі, а часам, ужо і аб супакоі.

Так усе гэтыя месяцы ў дыме ладану, падпаленых шын і выхлапных газаў манастыр лечыць душэўныя і фізічныя раны. Там жа могуць падсілкавацца і сагрэцца гарбатай ці кавай усе, хто прыходзіць у Міхайлаўскі працаваць валанцёрам.

«Ідзі сюды, мой добры, я цябе баршчом пачастую», — махае мне чарпаком аднагодка маёй мамы. Бяру боршч і крычу: «Дзякую!» Дзяўчат і жанчын у намётах-кухнях часта даводзіцца перакрыкваць: за іх спінамі трашчаць дызель- генератары. Ад бясконных начэй і гэтага грукату яны, бедныя, валяцца з ног, але, тым не менш, захоўваюць усмешку. «Я ўжо падаю, яшчэ адзін дзень і мяне зменяць», — кранае мяне з гарбатай мілавідная бабуля.

Уздоўж сцен храма растуць скрынкі з лекамі, шпрыцамі, аперацыйнымі наборамі, шакаладам, печывам, кансервамі, садавінай, малаком, шампунем, зубной пастай, туалетнай паперай, станкамі для галення, маркерамі, нататнікамі, лямпачкамі, ліхтарыкамі, каскамі, рэспіратарамі і інш. Усё сартуецца сотнямі рук і ўкладваецца на стэлажы.

Раптам побач вырастае малады чалавек, крыху маладзейшы за мяне, і басуе: «Добры дзень, Сяргей, я Ваш брат». Без здзіўлення і з іроніяй прашу здзівіць расповедам — якая такая ў нас з ім роднасная сувязь. З першых слоў ён ашаламляе правільнымі прозвішчамі маіх родных, дзеда, яго брата, месцам іх нараджэння, галінка за галінкай расплятаецца генеалагічнае дрэва. Стаю як укапаны. Траюрадны брат, пра якога я толькі чуў, ды і тое ў дзяцінстве.

Андрэй, той самы, з Драгобычы, што недалёка ад Львова! Абдымаемся, крычым!.. Гэтая рэвалюцыя не толькі развяла, яна і злучыла людзей.





**Запасы закатак, прынесеных жыхарамі Кіева для абаронцаў Майдану. Міхайлаўскі манастыр.**



**Сяргей Дарафееў**

Нарадзіўся ў 1980 у Мінску. Беларускі і ўкраінскі журналіст. Працаваў вядучым на тэлеканале АНТ. Пасля працаваў на ўкраінскіх «5 канале» і «Інтэры».

Калі хто-небудзь думае, што ўкраінцаў можна перамагчы, ён глыбока памыляецца. Прачыталі? Паўтару яшчэ раз: глыбока памыляецца! Украінцы трымаюцца адзін за аднаго. Я больш чым упэўнены — і беларусаў таксама перамагчы нельга!

У перапынках паміж «хуткімі», на бруку Міхайлаўскага адзін за адным спыняюцца асабістыя аўтамабілі — ад «Лексусаў» да «Жыгулёў». Вайна аб'яднала ўсіх — незалежна ад сацыяльнага статусу, прафесіі і палітычных поглядаў. Гэтыя людзі па дарозе з працы заехалі ў супермаркеты і забілі свае машыны да даху. Уявіце: увесь пад'езд дома, ад кожнай кватэры, сабраў і перадаў пратэстоўцам салёныя памідоры і агуркі, варэнне і сокі. Слоікаў аказалася так шмат, што для іх нават выдзелілі адмысловыя паліцы.

У мегафон абвяшчаюць, што патрэбныя валанцёры для начной аховы грамадскага парадку ля будынкаў міністэрстваў, а таксама для дзяжурства ў бальніцах, каб бандыты, нанятыя ўладай, не змаглі выкрасці параненых актывістаў з палат (у першыя тыдні сутыкненняў такія выпадкі былі масавымі). Вось скажыце, людзей хтосьці вучыў так арганізоўвацца і сябе абараняць?

Уяўляю, як цяпер некаторыя беларускія ідэолагі ўпэўнена кажуць: «Гэта ўсё замежныя агенты, якія жадаюць растаптаць наш унікальны дабрабыт!»

Убачанае не забыць. Ніколі не забуду фота параненага майданаўца, які акрываўленымі вуснамі цалуе сцяг сваёй краіны. Пасля гэтага нельга не ганарыцца тым, што ў тваіх жылах цячэ, у тым ліку, і ўкраінская кроў.

Сёння ўкраінец — гэта не проста нацыянальнасць, гэта з'ява, гэта мерка адданасці зямлі і сваёй гісторыі.

Сваім матэрыялам я больш за ўсё не хацеў рамантызаваць рэвалюцыю. Гэтым артыкулам я прапанаваў вам падзяліцца маім захапленнем сілай духу ўкраінцаў, іх прагай свабоды і адказнасці. Слава Украіне! Героям слава!

**Gazetaby.com**

# У Мінску спалілі кнігу расійскага фантаста Лук'яненкі, які зняважыў украінцаў

Беларускі блогер Яўген Ліпковіч правёў у Севастопальскім парку ў Мінску «літаратурна-мастацкую акцыю» па спаленні кнігі расійскага фантаста Сяргея Лук'яненкі (**на фота**). Блогера абурыў нядаўні інтэрнэтдопіс пісьменніка, у якім той надзвычай рэзка раскрытыкаваў рэвалюцыю ва Украіне. Лук'яненка заклікаў «нармальных украінцаў» ратавацца ад «фашысцкай мярзоты» ў Расіі і Беларусі і назваў сённяшнюю Украіну «праклятай зямлёю». Таксама аўтар забараніў перакладаць свае творы на ўкраінскую і паабяцаў рабіць усё магчымае, каб абмежаваць доступ украінскіх пісьменнікаў-фантастаў, што падтрымалі Майдан, на спецыялізаваныя мерапрыемствы ў Расіі.

«Я пратэстую супраць прапаганды лжэкаштоўнасцяў. Лук'яненка выкарыстоўвае сваю папулярнасць, каб абразіць украінцаў. Ён чамусьці не пратэстуе супраць кніг Кнута Гамсуна, які падтрымліваў Гітлера. Ён атакуе людзей паводле іх нацыянальнай прыкметы, нападае на сімвал свабоды —мову», — сказаў Ліпковіч.

Блогер абверг паралелі са спальваннем кніг нацыстамі ў Германіі і патлумачыў, што гэта адна з формаў акцыі пратэсту.

Раней Ліпковіч паліў кнігі Мікалая Чаргінца. Але ён бачыць розніцу ў той і гэтай сітуацыях. «Калі кнігі Чаргінца я палю з лёгкай душой, бо яны не маюць абсалютна ніякай мастацкай вартасці, дык пра гэты выпадак такога не скажу: Лук'яненка ўсё ж якая-ніякая літаратура. Аднак гэта мой жэст падтрымкі ўкраінскай рэвалюцыі. У Расіі ўжо выказваюцца прапановы забараніць выступаць Вакарчуку разам з «Акіянам Эльзы». Спачатку выказаўся дэпутат Мілонаў, потым Жырыноўскі. Але мы тут не можам забараніць Мілонава. Не можам папрасіць маці Жырыноўскага зрабіць аборт задняй датай. А кнігу я магу спаліць. Гэта мая асабістая маёмасць», —заявіў ён.


КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Кірыла Хілько**

## Аналітыкі прагназуюць

### Найлепшыя аналітыкі былі няздольныя прадказаць перамогу Майдану

На Майдан выйшла больш людзей, чым на беларускую Плошчу, і Януковіч застаецца пры ўладзе. Лозунг пра тое, што вуліца вырашае ўсё, патрабуе пераасэнсавання..

**Аляксандр Класкоўскі, 23 студзеня**

Януковіч, канечне, малайчына. Выдатны блеф з Асацыяцыяй.

**Дзяніс Мельянцоў, 17 снежня**

Тыя, хто думае, што Януковіч палітычны труп, — моцна памыляюцца.

**Дзяніс Мельянцоў, 22 лютага**

25 лютага беларускія літаратары і музыкі зладзілі марафон салідарнасці з Майданам. На Сядзібе БНФ выступалі Андрэй Хадановіч, Барыс Пятровіч, Уладзімір Арлоў, Наталка Бабіна, Алесь Пашкевіч, Уладзімір Някляеў, Міхась Скобла, Алесь Марачкін, Зміцер Бартосік і інш.



REUTERS

Спецназаўцы каюцца на каленях за тое, што служылі рэжыму Януковіча. Фота 24 лютага.

# Тры дзясяткі байцоў «Беркута» ўцяклі са зброяй

Больш за 30 байцоў кіеўскага «Беркута» збеглі разам са зброяй. Пра гэта паведаміў выканаўца абавязкаў міністра ўнутраных спраў Арсен Авакаў.

Паводле яго слоў, сілавікі спалохаліся пачатку следства і пошуку тых, хто даваў і выконваў злачынныя загады ў час супрацьстаяння з народам.

Калі менавіта зніклі байцы і колькі зброі прыхапілі, невядома.

«Гэта тая праблема, якую мы збіраемся вырашыць сёння—заўтра», — заявіў Авакаў.

Пры Януковічы частка сілавых структур ва Украіне цесна зраслася з мафіяй, злачыннымі групоўкамі. Гэта створыць рэальную праблему для новай улады.

**Сяргей Гезгала**

**Затрыманы маёр, які па-зверску збіў 18 дэманстрантаў**

У вольны ад службы час ён падзарабляў наёмнікам.

Канстанціна Дыярдыева апазналі як актыўнага ўдзельніка збіцця пратэстоўцаў у Марыінскім парку 18 лютага. Звінавацілі яго... ў дэзерцірстве. «Ён павінен быў знаходзіцца ў вайсковай часці, а пайшоў зарабляць крывавыя грошы. Пойдзе пад ваенны трыбунал», — напісаў у Фэйсбуку ўкраінскі дэпутат Ар’еў.

Канвой Унутраных войскаў і Самаабароны вывез яго на гаўптвахту.

# «Януковіч ні разу не звярнуўся да народа»

Апошні тэлевыступ былога прэзідэнта Украіны нагадваў апраўданне перад судом, кажа медыяэксперт **Уладзімір Падгол**.



22 лютага з Харкава Віктар Януковіч звярнуўся да народа Украіны. Выступ паказалі на тэлеканале, які належыць быламу віцэ-прэм’еру Арбузаву. (А маці Арбузава, у сваю чаргу, узначальвае банк, што належыць сыну Януковіча.) Пасля гэтага былы прэзідэнт больш ні разу не з’яўляўся нідзе. Ніхто не ведае, дзе цяпер палітык. Прамову Януковіча мы прааналізавалі з Уладзімірам Падголам.

**Словы Януковіча:** *«Я рабіў усё, каб у краіне не было кровапраліцця. Мы рабілі ўсё, каб стабілізаваць палітычную сітуацыю».*

**Падгол:** Ён баіцца, што яго абвінавацяць у забойстве людзей. Гэта ягоны першасны страх. Ён адчувае: калі зловяць міністраў, то яны скажуць, што ім загады аддаваў Януковіч. Гэта выплывае, як з Гангадзэ, і ён баіцца. Таму і апраўдваецца, што рабіў усё, каб спыніць кровапраліцце.

**Словы Януковіча:** *«Я хацеў узяць удзел у з’ездзе дэпутатаў усіх узроўняў, але не змог, бо павінен быць на сувязі...»*

**Падгол:** Ён напалоханы і няпэўны, што нават на з’ездзе пойдзе ўсё нармальна, што яго не схопяць проста ў Харкаве, ён не адчувае сябе бяспечна. Прыйдзі ды скажы, перамога будзе за намі, за намі праўда! Ура! У яго страх пачуць прэтэнзіі ад гэтых людзей.

Мядзведзеў назваў яго «анучай». Таксама можа назваць і харкаўскі мэр. Ён баіцца нават сваіх. Гэта інтэрв’ю не лідара дзяржавы, а ўцекача.

**Словы Януковіча:** *«Я спрабую абараняць людзей, якіх пераследуюць бандыты».*

**Падгол:** Ён робіць уражанне чалавека, які адказвае ў зале суда. Фактычна, гэта была першая прамова Януковіча перад судом. Скажы: як ты абараніў хоць аднаго чалавека ад бандытаў? Пры гэтым, што паехаў па тых месцах, дзе «бяспечна». Адказаць на гэта ён можа.

**Слова Януковіча:** *«Каб не дапусціць праліцця крыві блізкіх мне людзей».*

**Падгол:** Тут ён шчыры, бо ратуе сваіх сыноў, сваю каханку і сябе. Лёс Кадафі ў яго перад вачыма.

**Словы Януковіча:** *«Я бачыў паніку людзей, стралялі ў маю машыну»*

**Падгол:** У яго ў галаве кулі, забойствы, і апраўдвае ён гэта тым, што стралялі і яго машыну. Гэта як «лёзненскі стрэл».

**Словы Януковіча:** *«У мяне няма страху».*

**Падгол:** Кажа чалавек з бледнай маскай страху на твары.

**Словы Януковіча:** *«Мяне ахоплівае гора ...за нашу краіну».*

**Падгол:** Ён зрабіў паўзу, бо думаў зусім не пра краіну, а пра сябе і сям’ю. Нідзе няма народа, ён не апелюе да яго. Ёсць еўрапейцы, ёсць Пуцін. Але народа няма, няма ягоных выбарцаў.

**Словы Януковіча:** *«Я буду заклікаць усіх міжнародных назіральнікаў і пасярэднікаў, каб яны спынілі бандытаў».*

**Падгол:** Расія кінула яго. Адзіная надзея — Еўрасаюз і пераможцы, таму і апелюе да іх: калі заб’юць мяне, то гэта можа быць небяспечны прэцэдэнт. Як тапелец хапаецца за саломінку. Іншага выбару ў яго няма.

**Словы Януковіча:** *«Спікера збілі, па шляху стралялі ў машыну. Ён прыехаў да мяне, папрасіў, каб яго забраў з сабой. Зараз пайшлі пагрозы суддзям Канстытуцыйнага суда. Усякімі шляхамі яны гэта робяць».*

**Падгол:** Калі ён апісвае збіццё спікера, то адразу апускае вочы, так робіць чалавек, які хлусіць. Ён заплюшчвае вочы, каб уявіць сітуацыю, пра якую хлусіць. А яму трэба ўяўляць. Гэты тэкст — мікс з хлусні і паўпраўды. [На наступны дзень спікер Рыбак абверг: ніхто ў яго не страляў.]

**Словы Януковіча:** *«Ёсць тыя, што не вытрымліваюць ціску, але ёсць і здраднікі. Партыя перажыла шмат такіх часоў. Тады з партыі выйшла 200 тысяч, але прыйшло 600 тысяч».*

**Падгол:** Калі пра выхад з Партыі рэгіёнаў не схлусіш, то ў Януковіча твар трагічны, пакутны. Яшчэ імгненне — і заплача. І ён перажывае не за людзей, а за грошы, якія прападаюць з кішэні. Ён збег, бо адказны за забойствы. Людзі выходзяць, бо не хочуць быць запэцканыя ў крыві. Ён кажа пра сем’і партыйцаў, але думае пра сваіх дзяцей, каханку, сябе самога.

**Словы Януковіча:** *«Мы бачым нацысцкі паўтор, калі забараняюць партыі, у нас забараняюць Камуністычную, Партыю рэгіёнаў».*

**Падгол:** Ён адкрыта хлусіць, што Партыя рэгіёнаў забароненая, бо хоча сфарміраваць імідж ахвяры, а з пераможцаў — драпежнікаў, пачвару, таму адразу навешвае ярлык «нацыстаў».

Ён не кажа пра сябе як абаронцу нацыі. Яму няма чаго сказаць, бо людзі бачаць яго палац, а ў ім бідэ з залатымі ножкамі.

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Фёдар Клімчук: «Русіфікаванасць усходу Украіны перабольшваюць»

Нават у **Данецкай вобласці** 40% дзяцей вучацца па-ўкраінску.

Шмат гавораць пра катастрафічны сцэнар расколу Украіны на Захад і Усход. Ці ёсць перадумовы для гэтага? «Наша Ніва» паразмаўляла з кандыдатам філалагічных навук, былым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Фёдарам Клімчуком пра моўную і этнічную сітуацыю ва Украіне.

«Нацыянальнае пытанне ва Украіне не трэба спрашчаць, — кажа спадар Клімчук. — Канечне, была моцная русіфікацыя, аднак карціна больш складаная. Напрыклад, у Данецкай вобласці гістарычна жыло шмат грэкаў, у Запарожскай — балгараў. [Стуль родам былы міністр эканомікі Беларусі, рэктар БДЭУ, балгарын Уладзімір Шымаў. — НН] А ў Чарнавіцкай вобласці ёсць цэлы раён, дзе жывуць румыны. І калі ў іх пыталіся, ці не лічаць яны вартым увесці другую мову, румынскую, яны сказалі, што не бачаць такой патрэбы — мовай і так усе валодаюць».

Што тычыцца Усходняй Украіны, то спадар Клімчук лічыць стэрэатыпнае меркаванне пра русіфікаванасць гэтага рэгіёна перабольшаным.

«Часам пішуць, што ўкраінцы ўсходу размаўляюць выключна на суржыку, але гэта не зусім так. У гаворцы можа трапіцца рускае слова, але гэта не тое, што мы ў Беларусі называем трасянкай. Я памятаю, як сустрэў у Доме адпачынку на Львоўшчыне чалавека з Луганска, які без усялякіх праблем пераходзіў пры патрэбе на ўкраінскую мову. Ёсць, канечне, раён на ўсход ад Луганска, дзе адвечна асноўная мова — расейская, але на захад ад Луганска ўжо размаўляюць і так, і так».

Статыстыка па ўкраінскіх школах хутчэй пазітыўная.

«У Харкаўскай вобласці 70% школьнікаў вучацца па-ўкраінску, — кажа Клімчук. — У Данецкай і Луганскай абласцях такіх каля 40%, аднак для гэтага рэгіёна, моцна русіфікаванага за савецкім часам, гэта добры вынік».

Ці зменіцца моўная сітуацыя ва Усходняй Украіне пасля перамогі Майдану?

«Моўная сітуацыя не можа змяніцца раптоўна, — кажа спадар Клімчук. — Гэта працэс павольны».

Мовазнавец прыгадвае, як за савецкім часам прыехаў у Данецкую вобласць у грэчаскі асяродак.

«Я прыйшоў да знаёмага грэка, і ён запрасіў мяне схадзіць разам на Дзень народзінаў ягонага сябра, таксама грэка, — прыгадвае Клімчук. — Ад самага пачатку свята ўсе размаўлялі па-расейску, але дадавалі ўкраінскія і грэчаскія словы. Паступова гэтых словаў станавілася ўсё болей, і ўрэшце ўсе пачалі размаўляць па-ўкраінску і па-грэчаску. Цікава, што ў савецкіх перапісах усе гэтыя людзі былі пазначаныя як рускамоўныя. Мова здольная вяртацца».

**Юрась Ускоў**

# Канец клептакратаў

Прэзідэнт найбагацейшай краіны свету — ЗША — носіць гадзіннік за 300 даляраў. Затое прэзідэнты постсавецкіх дзяржаваў — хто за 15 тысяч, хто за 40 тысяч... Хоць іх афіцыйныя заробкі нашмат меншыя.

Пра ступень маральнай дэградацыі іх можна было меркаваць з аддалення. Але падзенне Януковіча дало магчымасць зазірнуць за заслону, якую раней старанна ахоўвалі службы бяспекі.

У першы ж дзень пасля ўцёкаў Януковіча ахова яго рэзідэнцыі Міжгор'е разбеглася, а яе месца на блокпасту заняла самаабарона Майдану. І адразу ў Міжгор'е пацягнуліся цікаўныя жыхары Кіева. Затор машын на дарозе расцягнуўся на многія кіламетры!

Як паказалі запісы відэакамер, увечары пятніцы, перад уцёкамі, сям'я Януковіча і найбліжэйшыя прыспешнікі пагрузілі самае каштоўнае на грузавікі, джыпы і ў верталёты, спалілі вялізную кучу дакументаў, а што спаліць не паспелі, выкінулі ў Дняпро. Але інтэр'еры вывезці яны не змаглі.

Што ж пабачылі ўкраінцы ў Міжгор'і, у рэзідэнцыі «гаранта стабільнасці»?

Там збудавана некалькі палацаў і дзясяткі будынкаў абслугі. Ёсць гіганцкі гараж з дзясяткамі раскошных аўтамабіляў і матацыклаў. Ёсць прычал з гіганцкай яхтай. Ёсць ферма і цяпліцы з экалагічна чыстай прадукцыяй. Ёсць поле для гольфа. Стаяць дзясяткі скульптур вакол возера з фантанам. Пазалота, ляпніна. Знайшоўся кілаграмовы залаты медаль з фізіяноміяй Януковіча. Відаць, палічылі недастаткова каштоўным...

Прадпрымальныя ўкраінцы тут жа наладзілі каля ўваходу ў Міжгор'е пракат веласіпедаў, бо пехам бяскрайнюю рэзідэнцыю цяжка абысці.

Самаабарона Майдану ўзяла пад ахову палац іншага «ўцекача» — былога генпракурора, адыёзнага Пшонкі. Тое самае сцяжацельства на мяжы клептаманіі: яйкі Фабержэ, дзясяткі старажытных ікон, партрэты сябе ў залатых рамах, непамерны басейн...

З Украіны ўцяклі або знаходзяцца ў невядомым месцы таксама былы намеснік старшыні Вярхоўнай Рады, былы міністр падаткаў і збораў, былы міністр унутраных справаў, былая міністр сацыяльнай абароны насельніцтва... У дзень уцёкаў Януковіча з Кіева вылецела яшчэ 160 чартарных рэйсаў прыватных самалётаў!

Шмат цікавага чакае нас наперадзе. 25 лютага ўкраінскія журналісты пачалі публікацыю тысяч дакументаў, якія яны вылавілі ў Дняпры каля Міжгор'я ў дзень уцёкаў Януковіча. Карупцыя была пастаўленая на канвеер. Сярод знойдзенага — распіскі за перадачу «інвестарамі» 12 мільёнаў даляраў і, з другога боку, ведамасці выплат з чорнай касы міліцыянтам за «спецаперацыі»...

**Мікола Бугай**

Сярэдні заробак ва Украіне (па стане на снежань) склаў 3600 грыўняў, то бок 3 мільёны 600 тысяч беларускіх рублёў. Пры гэтым ва Украіне ёсць адзінаццаць даляравых мільярдэраў.



Тысячы ўкраінцаў прыехалі ў Міжгор'е, каб зазірнуць у вокны палацаў Януковіча. У залатых вазах яшчэ не завялі жывыя кветкі.

REUTERS



Генпракурор збіраў яйкі Фабержэ і іконы ў залатых акладах...

REUTERS



...і быў вялікім аматарам уласных партрэтаў.

REUTERS

**Клептакратыя**

літаральна «ўлада злодзеяў». Прымяняецца да ўлады, якая кантралюецца ашуканцамі, што выкарыстоўваюць перавагі ўлады для павелічэння асабістага багацця праз раскраданне дзяржаўных сродкаў.



REUTERS

Баец самаабароны аглядае раскошныя інтэр'еры палаца Пшонкі.

## Дэманстранты падпалілі раскошны палац кіраўніка Кампартыі Украіны



У прыгарадзе Кіева Гастомель невядомыя ўзялі штурмам дом лідара Кампартыі Украіны Пятра Сіманенкі. Усё гэта адбылося на вачах у суседзяў па катэджным пасёлку.

Раскошны чатырохузроўневы палац на 200 (!) сотках зямлі быў запісаны на сына Сіманенкі, але пражываў там лідар камуністаў са сваёй новай маладой жонкай.

Ніхто з членаў сям'і не пацярпеў.

Каментуючы сітуацыю, Сіманенка папярэдзіў калег-палітыкаў, што «скончаць з намі — прыйдуць да вас».

Кампартыя Украіны ў парламенце папярэдняга склікання знаходзілася ў кааліцыі з кіруючай Партыяй рэгіёнаў. У Радзе цяперашняга склікання фармальнай кааліцыі з «рэгіяналамі» камуністы не стварылі, аднак неаднаразова галасавалі салідарна з імі.

Камуністы былі цесна павязаны з некаторымі алігархічнымі групамі.

Нападнікі перад сыходам падпалілі палац. Але пажарныя хутка згасілі агонь.

**Сяргей Гезгала**

### Для параўнання



Так выглядае дача прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага ў мясцовасці Буда Руская, недалёка ад беларускай мяжы.

У Варшаве ў прэзідэнта 4-пакаёвая кватэра, якая засталася яму ў спадчыну. Там цяпер жывуць двое ягоных дзяцей, пакуль сам Камароўскі з жонкай часова пражывае ў невялікай рэзідэнцыі ва ўрадавым квартале.

Хатка канцлера ФРГ Ангелы Меркель пад Берлінам.



Ці не таму шалее ў афіцыйных СМІ антыеўрапейская прапаганда, што трымальнікі ўлады бачаць у еўрапейскай сістэме пагрозу сваймy статус-кво, сваім палацам?

Многія памылкова лічаць, што «спайс» бяспечны.

# У Мінску на наркату падсаджваюцца нават школьнікі

Адразу тры смерці за адзін тыдзень ускалыхнулі Мінск. Моладзь паддалася на падманлівую рэкламу сярод равеснікаў: нібыта ёсць легальныя, а галоўнае, бяспечныя наркотыкі. І злавіць кайф можна нядорага. Але для трох сем'яў такія спробы расслабіцца сталіся трагедыямі.

Найбольшы розгалас выклікала смерць 18-гадовай Марыі. Першакурсніца БДУ, факультэт міжнародных адносінаў... Яна трапіла сюды не выпадкова: усёткі школу ў Баранавічах скончыла з залатым медалём. І паступіла на прэстыжны факультэт на бясплатнае навучанне. Пераезд у сталіцу нібыта абяцаў светлую будучыню. Але закахалася...

Дзяўчына ў тую ноч прыехала ў госці да свайго маладога чалавека. Што і як адбывалася пасля, дакладна невядома. Яны з хлопцам прымалі нейкі наркотык. Калі пад раніцу 13 лютага хлопцу стала кепска, ён патэлефанаваў сябру. Той прыехаў. Услед прыехала і міліцыя, якую выклікалі суседзі: яны пачулі крыкі дзяўчыны ў кватэры і гук разбітага шкла. Маша знаходзілася ў коме. Яе забралі ў бальніцу, дзе яна і памерла, не прыходзячы ў прытомнасць. Цяпер эксперты высвятляюць, што за хімія трапіла ў арганізм студэнткі. Каб допытаць яе сябра, давялося чакаць дзень — не адпускалі наркотыкі.

«Мяне непакоіць надта шмат пытанняў. Чаму нельга было адразу і своечасова выклікаць «хуткую дапамогу»? Чаму былі не проста крыкі, а «Не трэба!» і «Не хачу!»? Я не ведаю цяпер, у што верыць. У мяне знікла любая ўпэўненасць, акрамя той, што мая дачка не магла быць ініцыятарам наркатычнай вечарынкі», — заявіў бацька памерлай сайту onliner.by.

Пакуль падстаў для завядзення крымінальнай справы аб забойстве няма. Не выяўленыя сляды гвалтоўнай смерці. Хоць на целе Машы, як заўважыў яе бацька, былі сінякі. Але медыкі папярэдзілі: дзяўчыну не збівалі. А ў пакоі, дзе ёй стала блага, была разбіта шыба.

Падобныя дэталі ўспылілі праз



дзень ў Мінскім раёне. У пасёлку Прывольны трое сябрукоў 19 і 20 гадоў вырашылі папаліць спайс (сінтэтычная сумесь для палення, па эфекце нагадвае марыхуану). Гэта танны наркотык, які найчасцей прадаюць праз інтэрнэт. Сярод моладзі гандляры пазіцыянуюць спайс як бяспечны. Вось і хлопцы разлічвалі падвесяліць вечар. Але стан узнёсласці ў аднаго з іх змяніўся вострым псіхозам. Хлопец пачаў кідацца па кватэры, страціў пачуццё рэальнасці. Сябры спрабавалі яго ўціхамірыць, але не здолелі ўтрымаць. Ён вырваўся і рукамі выбіў шыбы ў акне. Парэзы былі такімі моцнымі, што ён сканаў да прыезду «хуткай дапамогі».

Насцярожвае, што наркотыкі пачалі трапляць і ў школы. Так, сталічнага 9-класніка медыкі забралі з кватэры ў Серабранцы. Дыягназ — «перадазіроўка наркотыкамі». 15-гадовы падлетак так і памёр па дарозе ў бальніцу. Мяркуецца, што ён сканаў ад «маркі» (кавалачак паперы, змочаны ў наркотыку), якую купіў праз інтэрнэт пад выглядам легальнай. Два клікі мышкай — і можна нават не выходзіць з дома: кур'еры падвязуць замову.

І 15 гадоў — гэта не мяжа. Нават меншыя школьнікі ўжываюць спайс. Гледзячы на прыклад дарослых, яны ўцягваюцца. А кінуць не заўжды ўдаецца. Не ўсе выпадкі ўжывання спайсу сканчаюцца фатальна, куды больш прыкладаў псіхічных зрываў. Часта спажыўцы такіх сумесяў трапляюць у псіхдыспансер.

Праз два дні пасля смерці 9-класніка ў Мінску затрымалі двух бабруйчан: хлопец і дзяўчына — самі яшчэ ўчарашнія школьнікі — мелі крыху больш за дваццаць гадоў. Праз інтэрнэт яны прадавалі спайсы і «маркі». Мяркуецца, што менавіта з іх партый і трапілі наркотыкі да школьніка ў Прывольным.

У школах ужо не першы год настаўнікаў абавязваюць праводзіць размовы з вучнямі, паказваць фільмы пра шкоду наркотыкаў, асобна засяроджваюцца на спайсах. А ў некаторых школах нават малодшых школьнікаў настаўнікі просяць назіраць за старэйшымі: расказваць, калі нешта падобнае пачуюць ці ўбачаць. Больш эфектыўных спосабаў барацьбы, на жаль, пакуль не прыдумалі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Спайс — пад забаронай**

Па інфармацыі Міністэрства ўнутраных спраў, у 2013-м у медустановы краіны па дапамогу з прычыны палення спайсу звярнулася каля 700 чалавек, шасцёра з іх памерлі. Сёлета ўжо зафіксавана каля 100 такіх зваротаў, два з іх — смяротныя. А толькі з 29 студзеня па 18 лютага 2014 заведзены 392 крымінальныя справы за незаконны зварот наркатычных і псіхатропных рэчываў, каля паловы з іх звязана з распаўсюдам спайсу.

У Беларусі забароненыя любыя спайсы. МУС адкрыла тэлефон даверу, па якім можна паведаміць пра месцы, дзе гандлююць сумесямі для палення — (017) 218-72-22.

## Забойства на Дзень Святога Валянціна

Да ног прывязалі мех з каменнем і ўкінулі дзяўчыну ў ваду.

У Рэчыцы трэцяе гучнае забойства за восем месяцаў. Маладых дзяўчат забівалі такія ж маладыя хлопцы.

У чэрвені 23-гадовая Лілія загінула ад рукі былога хлопца — хацеў вярнуць дзяўчыну. Але адмова ўспрыняў эмацыйна — закалоў каханую і кінуў у лесе. А ў верасні забілі 19-гадовую Алесю — пагадзілася, каб знаёмец правёў унячы дадому. Яе цела знайшлі знявечаным. На гэты раз ахвярай стала 19-гадовая Вікторыя.

Дзяўчына пераехала ў Рэчыцу з недалёкай вёскі Салтанова. Уладкавалася на працу ў рэстаран — кухарам. І на Дзень закаханых, відаць, чакала рамантыкі ад маладога чалавека, а не ўдару ў спіну.



Пра знікненне дачкі ў міліцыю паведаміла яе маці. Патлумачыла, што тая сышла са здымнай кватэры ў Рэчыцы ўвечары на Дзень Святога Валянціна. І больш ад яе вестак не было.

«Адной з магчымых версій разглядалася крымінальнае знікненне, — расказалі ва УУС Гомельскага аблвыканкама. — Хутка аператыўнікі выйшлі на кола бліжэйшых знаёмых. Сярод іх аказаўся жыхар адной з вёсак Рэчыцкага раёна. З ім зніклая была ў блізкіх адносінах, якія апошнім часам, па словах сведкаў, значна пагоршыліся».

У выніку хлопца затрымалі, а разам з ім і ягонага сябра. Падчас допыту даведаліся, што малады чалавек падгаварыў прыяцеля дапамагчы расправіцца з дзяўчынай. І той не адмовіўся.

Яны сустрэлі Віку ў горадзе і вывезлі ў лес, дзе спачатку збілі. А пасля да ног дзяўчыны прывязалі мех з каменнем і ўкінулі яе ў ваду.

Крымінальную справу завялі за забойства, здзейсненае групай асобаў. За гэта прадугледжана самае суровае пакаранне — аж но да расстралу. А хлопцы ж зусім маладыя — 1993 і 1994 гадоў нараджэння. Што ж магло выклікаць такую агрэсію?

«Я не магу сказаць, што хлопец быў былым, яны і не расставаліся. Расказваюць, ён забіў, бо Віка сказала яму пра цяжарнасць — падманула. А хлопец бегаў яшчэ за адной дзяўчынай. Тая як даведалася, што Віка нібыта цяжарная, паслала яго. Вось праз гэта, відаць, усё і здарылася», — дзеліцца магчымай прычынай такога ўчынку знаёмая Вікторыі.

**СМ**

**Вышук**



**Аматар вандраваць**

26-гадовы мінчук браў грошы ў знаёмых нібыта для бізнэсу, іншым абяцаў прыгнаць аўто з-за мяжы. Але цалкам сумы не вяртаў. Сам жа ездзіў на дарагіх машынах і вандраваў па Еўропе. Калі нехта пацярпеў ад гэтага чалавека, звяртайцеся ў Следчы камітэт на (017) 288-75-02.



**Жанчыны абкрадаюць пенсіянераў**

Дзве жанчыны ў Мінску абкрадаюць пенсіянераў. Могуць прадстаўляцца супрацоўніцамі аддзела пенсійнага забеспячэння. Складзены фотаробат адной з іх. Прыкметы: на выгляд 25-28 гадоў, рост 165-170 см, была ў чорных куртцы і шапцы. Калі вы пазналі жанчыну з фотаробата, звяртайцеся на (017) 280-35-17.

**Сцісла**

**Трэцякласнік, а што нарабіў**

У Гродне трэцякласнік знайшоў у двары і прынёс дадому металічны прадмет, які аказаўся нямецкай гранатай часоў Першай сусветнай вайны. Гранату ізалявалі, а затым абясшкодзілі. Праляжаўшы ў зямлі каля сотні гадоў, граната не страціла сваіх баявых уласцівасцяў.

**Аферысты выманьвалі грошы**

Пяць гадоў злачынная група ў Бабруйску нажывалася на алкаголіках. Яны шукалі асацыяльных бабруйчан, у якіх былі кватэры і запазычанасці па квартплаце. З імі праводзілася адпаведная праца, пасля якой уласнікі кватэр падпісвалі даверанасці на права распараджэння іх жыллём. У далейшым жыллё прадавалася, а былыя гаспадары перасяляліся ў Глускі раён.

**Не ўратавалі...**

12-гадовая Лена Новік шэсць гадоў змагалася з цяжкім захворваннем — вострым лімфабластным лейкозам. 28 студзеня дзяўчынку даставілі ў нямецкую лякарню. Але ўратаваць не змаглі.

**КМ**

# Студэнт-эканаміст абараніўся на роднай мове

Студэнт Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Мікіта Навіцкі напісаў і абараніў дыплом «Шляхі падвышэння прыбытку і рэнтабельнасці РУП «Выдавецтва «Адукацыя і выхаванне»» па-беларуску. Мікіта стаў адзіным студэнтам у групе (а мабыць, і ва ўсім універсітэце), хто адважыўся на такі крок. Хоць Новіцкі прызнаўся, што не размаўляе па-беларуску пастаянна. «Я па-беларуску маўчу: слухаю шмат беларускамоўнай музыкі, чытаю кнігі па-беларуску».

Мікіта кажа, што на шлях беларускамоўнасці яго накіраваў адзін з выкладчыкаў універсітэта: «Настаўнік, які выкладаў у нас эканамічную тэорыю на першым курсе, рабіў гэта выключна па-беларуску. Многія студэнты не разумелі і пастаянна прасілі яго перакласці на расійскую лекцыі. А мяне гэта натхніла.

Ужо на 2-3 курсе я пачаў перакладаць канспекты на беларускую. То бок лекцыі чытаюць па-расійску, а я запісваю па-беларуску. Спачатку было цяжка, але потым я ўцягнуўся. Што тычыцца адмысловай тэрміналогіі, не скажу, што ўзнікалі вялікія складанасці. Я вывучаю эканоміку, і тэрміналогія ў ёй збольшага міжнародная. Я чуў пра гомельскага студэнта, які па-беларуску абараніў дыплом інжынера. Мяркую, яму было значна складаней у пошуках катэгарыяльнага апарату».

Да беларускамоўнага дыпломнага праекта выкладчыкі паставіліся цёпла і падтрымалі яго. «Я адзіны з усёй групы, хто атрымаў «дзесяць» за абарону дыплома. Думаю, што ў гэтым грала ролю менавіта мова, на якой я напісаў праект і абараняўся», — кажа ён.




Сам Мікіта не лічыць, што зрабіў нешта звышнатуральнае: «Лічу, што кожны беларускі эканаміст, які заканчвае ВНУ цяпер, мусіць ведаць беларускую мову на такім узроўні. Я хачу сказаць усім беларусам, каб яны не забывалі нашу мову, каб яе прасоўвалі, карысталіся ёю. Карысталіся ўсюды: на вучобе, у сям'і, на працы.

Гадуйце дзетак па-беларуску, прызнавайцеся ў каханні па-беларуску, пішыце дыпломы па-беларуску, карыстайцеся беларускай мовай на працы! Не чакайце загадаў зверху пісаць дыплом па-беларуску. Проста бярыце і рабіце! І тады Беларусь сапраўды будзе беларускай», — кажа ён.

**Кірыла Хілько**

# Дарафеева паставіць мюзікл пра беларускага Робін Гуда

Летась у спявачкі Ірыны Дарафеевай, якая з'яўляецца загадчыцай кафедры мастацтва эстрады ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, узнікла ідэя: замест таго, каб займаць студэнтаў асобнымі практыкаваннямі, трэба, каб яны паўдзельнічалі ў пастаноўцы цэльнага твора. Выбар спынілі на «Дуброffскім».



Рэжысёрам стане Мікалай Андросаў. Прадзюсар праекта — Юрый Саваш.

Павел Нашчокін, сябра вялікага рускага пісьменніка Пушкіна, расказаў яму гісторыю Астроўскага, «які меў працэс з суседам за зямлю, быў выцеснены з маёнтка, стаў рабаваць спачатку паддзячых, потым і іншых».

Рэальны Астроўскі, як і Дуброўскі, быў вымушаны настаўнічаць у суседняга памешчыка. Пазней трапіў у астрог. Але збег адтуль і не быў адшуканы.

Да гэтай гісторыі звярнуўся кампазітар Кім Брэйтбург. Яго мюзікл называецца «Дуброffскі» і напісаны яшчэ ў 2010 годзе.

У «Дуброffскім» будуць занятыя каля 200 чалавек. Пераважная большасць з іх — студэнты Універсітэта культуры і мастацтваў.

Прэм'ера запланавана на канец мая 2014.

**Мікіта Капкоў**

# У Екацярынбургу будзе помнік Мулявіну

Конкурс эскізных праектаў на стварэнне помніка Мулявіну быў абвешчаны ў мінулым годзе. Але паколькі ніводзін варыянт так і не быў прыняты, конкурс падаўжалі двойчы.

Пераможцам быў абраны праект Сяргея Логвіна. Помнік, які будзе ім створаны, з'явіцца ў Екацярынбургу на алеі, якая вядзе да білетных кас кінатэатра «Космас».

На гэтай пляцоўцы «Песняры» неаднаразова выступалі падчас гастроляў.



**Глеб Кандрацьеў**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Карункі з начосам

Нібыта лёгкі землятрус скалануў Савец..., прабачце, Мытны саюз — забарона на карункавыя трусы.

Землятрус выклікаў хвалю пратэстаў — пад сцягам барацьбы за жаночую прыгажосць. Казахстанскія дзеўкі нават начапілі трусы на галовы. Там, праўда, усё сышлося ў адно: трусы, дэвальвацыя і дыктатура...

Ведалі б забаронцы і абаронцы жаночай прыгажосці, якая з дасягнутых імі вышынь духу адкрываецца гістарычная далячынь! Хай сабе не далей за 1944 год. Але ж і гэта не мала. Бо я ўжо паспеў пражыць тры гады, вярнуцца з эвакуацыі ў Мінск і трапіць з цёткай Надзеяй у жаночую лазню...

І што ж бачыцца сёння ў той далечыні?

Бачацца нейкія рэйкі, цяплушка, што па тых рэйках грукоча да паўразваленага дома на Маскоўскай, бамбёжка і страшэнны восеньскі ўраган.

Бамбёжка, на дзіва, мяне зусім не палохала. Мо таму, што ўражвала захапляльнай прыгажосцю начнога неба, па якім соўгаліся промні пражэктараў, асвятляючы лёгкія карункавыя — так, менавіта карункавыя! — аблокі...

А вось ураган ахапіў усю маю дзіцячую істоту неймаверным жахам. Ён так раз'юшана грукатаў жалезам па спехам залапленым даху, свісцеў па таямнічых завуголлях, хістаў за вакном дрэвы, з ляпанием кідаўся ў шкло пажоўклым лістападаўскім лісцем, нават у пакоі хістаў цемру разам з цьмяным агеньчыкам ад газоўкі. Цётка Надзея туліла мяне да сябе, а потым пачала апранаць, каб ісці ў нейкую лазню. І вось тут ужо я напалохаўся да енку. Бо лазня, па-руску баня, адразу ўявілася жытлом жахлівага Бабая, што няўмольна сочыць за маімі паводзінамі...

Я ўпіраўся, нават біўся, калі цётка Надзея падхапіла мяне на рукі... Да таго часу яна заўжды купала мяне ў тазіку. Ставіла ў закутку пакойчыка, дзе мы з ёй жылі, палівала з глечыка цёплай вадой... А тут ураган, цемра, нейкая лазня, Бабай...

Страх сцішыўся адразу, як толькі скрозь гарачую вільгаць я ўбачыў мноства аголеных жаночых целаў. Сёння я разумею,

## Выродлівасць савецкага адзення і дэфіцыт калготак і даканалі СССР

што мо ўпершыню ў жыцці да маёй дзіцячай душы дакранулася **сапраўдная** прыгажосць.

Так, я ведаў, што ў мяне прыгожая мама, вельмі прыгожая, асабліва калі цалуе на ноч; ведаў, што прыгожы тата — на здымках, якія ён дасылаў з вайны, бо яго́най калючай шчакі яшчэ трэба было дачакацца; урэшце рэшт, бачыў прыгожае, у промнях пражэктараў, неба... Пра цётку Надзею нават не думаў, што яна прыгожая. Жылі ў адным пакойчыку, яна ніколі не саромелася распранацца пры мне... Але якая тут прыгажосць? Звычайная з'ява...

А вось тут, у лазні, мяне ахапіла зусім незвычайнае, незнаёмае пачуццё. Сорам? Мо і сорам. Хаця чаго магло саромецца трохгадовае хлапчанё? Пачуццё жаночай прыгажосці? Таксама не вельмі дакладна. Бо як магло трохгадовае хлапчанё адрозніваць жаночыя целы па прыкметах знешняй прыгажосці? Адно што па прыкмеце ўласнага адрознення. Але што магло разумець у тым адрозненні трохгадовае хлапчанё?

...Цётка Надзея пайшла па ваду. «Паглядзіце за ім, каб не слізгануўся». — «Не хвалюйцеся, — жанчына, што мылася побач, ласкава пагладзіла мяне па галоўцы, — табе падабаецца мыцца?» І з нейкай таямнічасцю ціхенька засмяялася...

Я не ведаю, чаму запомніў тую жанчыну на ўсё жыццё. Мо таму, што праз яе ціхую пяшчотнасць у маёй няўцямлівай дзіцячай падсвядомасці ўпершыню нарадзілася адчуванне таго, што сапраўдная прыгажосць заўжды таямнічая...

Як прыгажосць Моны Лізы.

...Але прабачце, забыўся на забарону карункавых трусоў — найвялікшага на былой савецкай прасторы дасягнення дэмакратыі, як, так бы мовіць, сцяга. А тут такі замах на святыню, на жаночую прыгажосць, што насамрэч сталася сімвалам часу!

То бок сімвалам спалучэння сумнеўнага бізнэсу і палітыкі — ад конкурсаў прыгажосці да Femen...

Дарэчы, пра Femen: іх акцыі былі б куды больш крутымі, каб яны намагаліся ратаваць свет не аголенымі грудзьмі, а выродлівымі, з савецкага часу, рэйтузамі з начосам. Ды й пратэст іх казахстанскіх паслядоўніц быў бы больш выразным, калі б начапілі на галовы тыя ж самыя рэйтузы. А так што? Адрыжка савецкага дэфіцыту...

Нехта вырашыць, што жартую. Які жарт? Дагэтуль памятаю, як скаланулася напачатку 60-х грамадства, калі вялікі сябра СССР Іў Мантан зладзіў у Парыжы выставу савецкай жаночай бялізны. А міністр лёгкай прамысловасці СССР Тарасаў? Сам чуў, як ён адказаў на пытанне калегі-журналісткі пра калготкі: «Савецкім жанчынам, — глыбакадумна прамовіў былы футбаліст, — калготкі не патрэбны». Не паверыце, гэта быў пачатак 80-х...

У пэўным сэнсе выродлівасць савецкай бялізны і адсутнасць калготак даканалі СССР. Так што абаронцам карункавых трусоў ёсць на што спадзявацца ў барацьбе з дыктатурамі. Вось толькі каб памяталі, як рэйтузы з начосам ратавалі іх бабуль на лесапавалах, у халодных бараках, на скразняках заводскіх цэхаў, на калгасных палях і на ўкладцы чыгуначных шпалаў... Канечне, прыгажэй было б, каб тыя трусы з начосам аздабляліся карункамі. Хаця...

Хаця гляджу на Мону Лізу і думаю: чаму не ўзнікае пытанне, якія на ёй трусы?..

# Вялікі бізнэс супраць прадпрымальнікаў: хто каго?

ІП-шнікі спрабуюць вытаргаваць у Лукашэнкі **захаванне льготных умоваў**.

Прадаваць тавары без суправаджальных сертыфікатаў якасці будзе забаронена з 1 ліпеня 2014. Гэта прадугледжваецца праектам указа «Аб некаторых пытаннях рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі». Вызначаная дата пераносіцца ўжо не першы раз, але ІП-шнікі хочуць зноў атрымаць адтэрміноўку ад Аляксандра Лукашэнкі. Гэтае пытанне абмяркоўвалася на сустрэчы прадпрымальнікаў з кіраўніком дзяржавы.

Аргумент у іх усё той жа — атрымаць сертыфікаты на расійскіх рынках немагчыма. Прыняцце новых правілаў фактычна паралізуе дзейнасць прадпрымальнікаў.

З імі аказаліся салідарныя толькі некалькіх чыноўнікаў. Не ўводзіць абавязковыя сертыфікаты параіў Лукашэнку губернатар Брэстчыны Канстанцін Сумар. А віцэ-прэм'ер Аляксандр Калінін прапанаваў паэтапны пераход на новыя правілы.

Іншыя чыноўнікі падтрымалі праект указа, асабліва шчыраваў віцэ-прэм'ер Пятро Пракаповіч. Ён бачыць праблему беларускай эканомікі ў дзейнасці пасярэднікаў. «Нашая задача заключаюцца ў тым, каб пастаўляць напрамую любы тавар, — патлумачыў ён. — Чатыры-пяць дзён — і кантэйнер з Кітая прыходзіць у Мінск. Якія праблемы?»

Лукашэнка ў чарговы раз даручыў яму стварыць на тэрыторыі Беларусі аптовыя рынкі, дзе маглі б закупляцца прадпрымальнікі. Першы такі рынак мае адкрыцца ў Аршанскім раёне.

Прэм'ер Міхаіл Мясніковіч звярнуў увагу на іншы дзяржаўны інтарэс. Па іншых словах, беларускай лёгкай прамысловасці занадта складана канкураваць з шэрым імпартам.

Упершыню за час грамадскага абмеркавання слова сказаў і вялікі бізнэс. Сваю пазіцыю агучыў Валянцін Байко, уласнік кампаніі «Контэ», якая займаецца вытворчасцю трыкатажу, панчохаў і шкарпэтак.

«Многія гады было ўзаконена, што прадпрымальнікі не мелі дакументаў, якія пацвярджалі набыццё тавару і ягоную якасць. Калі мы рушым да цывілізаванага рынку, гэта дзіўна і нелагічна. У кожнага ўласніка кватэры, машыны, адзення ёсць тэхпашпарт і чэк. На любую рэч ёсць дакументы. А тут цэлая армія прадпрымальнікаў не мае дакументаў на тавар, прывезены нелегальна аднекуль з Кітая ці Кыргызстана. Гэта фактычна ўзаконены канал збыту нелегальнай прадукцыі. Такога тавару быць не павінна, гэта крымінальнае злачынства, якое караецца па ўсім свеце!» — катэгарычна заявіў адзін з найбагацейшых людзей краіны ў эфіры канала «Беларусь-1».

«Калі ўсе прадпрымальнікі будуць у роўных умовах, усе будуць вымушаныя вызначыцца: ці застацца прадпрымальнікамі, ці ісці на завод, ці стаць мастакамі або музыкамі», — падсумаваў Валянцін Бойка.

У якасці паслаблення для працы індывідуальных прадпрымальнікаў Аляксандр Лукашэнка гатовы дазволіць ім наймаць на працу не толькі сваякоў. Гэта правіла было ўведзена некалькі гадоў таму і выклікала ў свой час пратэсты з боку дробнага бізнэсу.

**Ягор Марціновіч**

# Памёр гаспадар «Ждановічаў»



**Яўген Шыгалаў** некалькі гадоў таму выйшаў на свабоду.

Яшчэ пару гадоў таму мільянер Яўген Шыгалаў займаў 7-е месца ў спісе самых паспяховых бізнэсменаў Беларусі. У гісторыі беларускай эканомікі ён вядомы як заснавальнік найбуйнейшага рынку краіны. Ягоныя «Ждановічы» дагэтуль квітнеюць. Гэта і прадуктовы, і будаўнічы, і аўтамабільны рынкі, а яшчэ барахолка і некалькі «Сусветаў моды» з адзеннем. Вось толькі абставіны моманту, у які былы слесар ВАЗ і перагоншчык патрыманых аўто атрымаў магчымасць стварыць «Ждановічы», дагэтуль не дасследаваныя.

Гэтая гісторыя ледзь не патапіла Шыгалава ў 2008-м, калі ён быў арыштаваны і абвінавачаны ў незаконным захопе зямлі і злоўжыванні ўладай. Праз паўтара года адседкі ў следчым ізалятары ён выйшаў на волю. Былі створаны публічны прэцэдэнт — вызваленне ўзамен на сплату кампенсацыі. Шыгалаву налічылі амаль $40 мільёнаў і адпусцілі на лячэнне ў Лондан. Грошы меркавалася патрацiць на будаўніцтва «Чыжоўка-Арэны».

У Шыгалава было хворае сэрца, а пасля дадалося яшчэ і цяжкае захворванне крыві. Мільянер перанёс некалькі аперацый і фактычна адышоў ад кіравання «Ждановічамі», пераклаўшы паўнамоцтвы на плечы сваякоў. Зяць Віталь Курыла ўзначальвае назіральную раду гандлёвага дома «Ждановічы», у гэты ж орган уваходзіць і сын Сяргей Шыгалаў.

Яўгену Шыгалаву ішоў 61-ы год.

**ЯМ**

# Лукашэнка разагнаў кіраўніцтва Міністэрства сувязі

Новым міністрам прызначаны **Сяргей Папкоў** з «Белтэлекама».

61-гадовы Мікалай Панцялей быў міністрам сувязі і інфарматызацыі апошнія сем гадоў. Ён каля 30 гадоў адпрацаваў на Мінскім электрамеханічным заводзе, а пасля пакруціўся на кіраўнічых пасадах у Мінгарвыканкаме.



Ягоным пераемнікам стаў 56-гадовы прафесійны сувязіст Сяргей Папкоў (**на фота**). Тыя ж 30 гадоў ён падымаўся па кар'ернай лесвіцы ў «Белтэлекаме» (раней Мінская гарадская тэлефонная сетка) — ад інжынера да генеральнага дырэктара. Што праўда, сярод задачаў, якія апошнія гады стаяць перад Міністэрствам сувязі, — знішчэнне манаполіі «Белтэлекама». Наколькі гэтаму дасць рады былы кіраўнік арганізацыі?

Папкоў атрымаў і новых маладых намеснікаў. 35-гадовы Дзмітрый Шадко раней рабіў кар'еру ў Беларускім патрыятычным саюзе моладзі, а пасля ўзначальваў адыёзны часопіс «Планета», прысвечаны сусветным змовам. Да нядаўняга часу Шадко быў намеснікам міністра інфармацыі. Сярод ягоных ідэй — рэгістрацыя сайтаў як СМІ.

Таксама ў кіраўніцтва міністэрства прызначаная былая намесніца дырэктара Парку высокіх тэхналогій Інэса Канцавая.

**ЯМ**

**Шакуцін збірае чыноўнікаў-адстаўнікоў**

Былы віцэ-мэр Мінска Сяргей Радаман уладкаваўся намеснікам генеральнага дырэктара канцэрна «Амкадор». Мільянер і сенатар Аляксандр Шакуцін, які кіруе холдынгам, працягвае збіраць звольненых чыноўнікаў. У ягоныя структуры ў розны час прыходзілі памочнік кіраўніка дзяржавы Сяргей Ткачоў, кіраўнік БРСМ Аляксандр Нахаенка, дырэктар МАЗа Мікалай Касцень, міністр транспарту Іван Шчэрба.

# Можа знікнуць апошні факультэт беларускай філалогіі

У Віцебску **на 20 выкладчыкаў набралі толькі 20 першакурснікаў**.

Факультэт беларускай філалогіі і культуры, які існуе ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Машэрава, застаецца апошнім выключна беларускім. У іншых ВНУ існуюць філалагічныя факультэты (а таксама гісторыка-філалагічныя, факультэты рускай і беларускай філалогіі), але выключна беларускага больш няма нідзе. Неўзабаве можа знікнуць і ён. У прыватных размовах выкладчыкі пацвярджаюць намер далучыць факультэт да філалагічнага.

У структуру факультэта, утворанага ў 1992 годзе, зараз уваходзяць дзве кафедры: беларускага мовазнаўства і беларускай літаратуры. Агульная колькасць выкладчыкаў складае ўсяго 20 чалавек. А ў апошнюю ўступную кампанію першакурснікамі пажадалі стаць столькі ж абітурыентаў, яны і склалі адну групу. Між тым, паводле Кодэкса аб адукацыі, на факультэце павінна вучыцца не менш за 200 чалавек. Таму юрыдычныя падставы для рэарганізацыі існуюць.

Пераўтварэнні ў Віцебскім універсітэце знаходзяцца ў рэчышчы агульнабеларускіх тэндэнцый. У параўнанні з савецкімі часамі ледзь не ў 10 разоў скараціўся набор на філалагічны факультэт БДУ. У Педагагічным універсітэце імя Танка некалькі гадоў таму былі аб'яднаныя беларускі і рускі філфакі.

**Глеб Кандрацьеў**

## Сцісла

**Маладафронтаўцаў арыштавалі на 10 сутак**

Міколу Дземідзенку і Дзмітрыю Крамянецкаму адмовілі ва ўездзе ва Украіну. Памежнікі перадалі іх беларускім міліцыянтам, а тыя склалі пратаколы за «дробнае хуліганства». Рашэнне аб арышце вынес суддзя Ельскага раённага суда Іван Цалкаў.

**Фігуранты «балотнай справы» атрымалі тэрміны**

Сямёра ўдзельнікаў пратэстаў, якія адбыліся 6 мая 2012 года ў Маскве, былі асуджаныя на тэрміны ад 2,5 да 4 гадоў калоніі агульнага рэжыму. Раней былі асуджаныя яшчэ двое актывістаў. У дзень вынясення прысуду былі затрыманыя 420 чалавек на несанкцыянаванай акцыі салідарнасці.

**Лойка судзіцца з «Белінвестбанкам»**

Банк адмовіўся заключыць са скульптарам Генікам Лойкам дамову на абслугоўванне, складзеную па-беларуску, тым самым парушыў ягоныя правы. Дарэчы, Нацбанк раіў банкам прапаноўваць кліентам дамовы на абедзвюх дзяржаўных мовах.

**ЯМ**

# Дзве сям'і 20 гадоў жывуць у доме з дзіравымі сценамі

Кватэра Жанны Герасім у Аляхновічах дагледжаная: вялікі тэлевізар, піяніна, абсталяваная кухня з аўтаматычнай пральнай машынай, душавая кабіна, тытан. Ёсць нават акварыум. Аднак як толькі скідаеш куртку, адразу становіцца холадна: на двары трошкі вышэй за нуль, у кватэры Жанны — плюс 10 па Цэльсіі.

**Дом №18**

Таццяна Бабёр, суседка Жанны Герасім па доме №18 на вуліцы Цэнтральнай у вёсцы Аляхновічы, кажа, што апытвала старажылаў і высветліла: дому 102 гады.

«Тут жыла паненка. Яе сыны па рацэ лес сплаўлялі. За савецкім часам іх рэпрэсавалі», — кажа яна.

У 1950-я гады да яго прыбудавалі яшчэ адно крыло, падзялілі на чатыры кватэры, перадалі птушкафабрыцы. Будынак выкарыстоўваўся ў якасці «падменнага» жылля — выдавалі яго супрацоўнікам фабрыкі, пакуль тыя чакалі кватэру. Сёння дом не выглядае надта прыдатным для жыцця — здаецца, знесці і забыць. Аднак у ім дагэтуль жывуць людзі.

**20 гадоў у бараку**

Жыллё ў доме №18 Таццяна Бабёр і Жанна Герасім са сваімі сем'ямі атрымалі каля 17 гадоў таму. Ім выдалі яго ў якасці часовага як супрацоўнікам Аляхновіцкай птушкафабрыкі.

У 1990-я кватэры ні ад птушкафабрыкі, ні ад агракамбіната «Аляхновічы», у які тая пераварылася, яны не атрымалі.

Жанчыны з сем'ямі працягвалі жыць у доме — іншых варыянтаў у іх не было. Дом жа працягваў разбурацца.

**«Выжыла адна рыбка з 60-ці»**

Праз холад у акварыуме Жанны памерлі ўсе рыбкі, акрамя адной — нават спецыяльны абагравальнік не можа падтрымліваць неабходную тэмпературу вады.

Галоўны вораг сем'яў Герасім і Бабёр — холад. Сцены рассыпаюцца. Пад акном у Жанны Герасім — вялікая дзірка.

Не працуюць у доме і печы — яны дзіравыя і не трымаюць цяпло. МНС нават афіцыйна забараніла жанчынам карыстацца імі.

У дадатак да цвілі і грыбка, частка дома нахілялася праз прасяданне падмурка.

**Вайна па перапісцы**

Стаміўшыся ад такога жыцця і пасля няўдалай спробы выкупіць жыллё, Таццяна і Жанна пачалі звяртацца да чыноўнікаў.

Дом аварыйным не прызналі: паводле адказу Маладзечанскага райвыканкама знос дома складае 62%, а аварыйным лічыцца дом, зношаны мінімум на 65%.

Аднак наведванні кабінетаў прынеслі і плён: улады паабяцалі правесці капітальны рамонт будынка. Ды толькі агракамбінат «Аляхновічы» — банкрут, і прац аплаціць не можа.

Падключыўся райвыканкам з грашыма. Падчас рамонту жыхароў дома вырашылі адсяліць у суседні будынак — дом №7 па вуліцы Цэнтральнай. Тут узнікла новая спрэчка — жанчыны адмовіліся перасяляцца ў падменнае жыллё.

Суд стаў на бок жанчын, у прымусовым адсяленні адмовіў. Жанчыны гатовыя былі б перачакаць капрамонт у інтэрнаце агракамбіната, але няма юрыдычнай магчымасці іх там пасяліць.



У кватэры Жанны Герасім +10 °С.

Жыхарка кажа, што дому прыкладна 102 гады.

**На каго спадзяёмся?**

У якасці кампрамісу жанчынам прапанавалі ўладкавацца на ААТ «Дуброва-2013», якое з'явілася ў выніку рэарганізацыі Аляхновіцкага агракамбіната, каб атрымаць жыллё ад прадпрыемства. Аднак Таццяна і Жанна адкінулі гэты варыянт. Яны кажуць, што, па-першае, заробкі на «Дуброва-2013» не перавышаюць 100 даляраў, а на такія грошы сям'ю не пракарміць. Па-другое, да працы трэба дабірацца 12 кіламетраў сваёю хадою. І па-трэцяе, жыллё даюць толькі на час працы.

Цяпер жанчыны стаяць у чарзе на будаўніцтва кватэры, аднак кажуць, што пацягнуць толькі льготны крэдыт. Для яго атрымання неабходна лічыцца ў спісах на паляпшэнне жыллёвых умоў. Занесці ў такі спіс могуць жыхароў дома ў аварыйным стане. Аднак дому №18 да гэтага стану не хапае трох працэнтаў...

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама Дзмітрый Яхнавец сказаў карэспандэнту «НН», што жанчыны раздзьмулі гісторыю, каб лёгкім чынам атрымаць кватэры.

«Райвыканкам пагадзіўся даць сродкі на рамонт дома. Аднак рэканструкцыю і капрамонт будынка можна правесці толькі з адсяленнем жыхароў. У дадзены момант у манеўровым фондзе райвыканкама ёсць толькі кватэры ў доме №7 па вуліцы Цэнтральная ў Аляхновічах. Як толькі жыхары гэтага дома перадуць, мы пачнём рамонт», — рэзюмаваў ён.

Сітуацыя дурная: жытло не сваё, таму людзі не ўкладаюць у рамонт уласных грошай, спадзяюцца на дзяржаву. Як бы ні было, але няўжо нельга знайсці цывілізаванага рашэння?

**Кірыла Хілько, фоты аўтара**

## Дзяржкамітэт па маёмасці супраць трасянкі, за беларускую мову ў тапаніміі, дзякуе аўтарам зваротаў

Дзяржаўны камітэт па маёмасці выступіў з афіцыйнай заявай у пытанні зменаў у закон аб наданні назваў геаграфічных аб'ектаў:

«Дзяржаўны камітэт па маёмасці Рэспублікі Беларусь прапануе зацвердзіць у Законе прысваенне найменняў геаграфічным аб'ектам на беларускай мове.

Праект рэдакцыі артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў» Дзяржкаммаёмасцю быў перагледжаны з улікам аналізу зваротаў грамадзян, прапаноў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь.

Дзяржкаммаёмасць выказвае падзяку грамадзянам, якія неабыякава ставяцца да пытання нацыянальнай тапаніміі і аховы геаграфічных назваў як гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі».

**Рэд.**

## Я буду гаварыць!

Ніколі не думаў, што буду размаўляць на беларускай мове ў штодзённым жыцці. Ні бацькі, ні дзядулі з бабулямі ў мяне на мове не размаўлялі. Ад жывога чалавека да 2010 я не чуў толькі ў школе дый ва ўніверы. Адзінае, што было заўсёды ў мяне ўнутры, —гэта патрыятызм. Пры гэтым я мала ведаў пра Грунвальд, Астрожскага, Каліноўскага дый бел-чырвона-белы сцяг. Проста ведаў, што Беларусь —самая лепшая краіна ў свеце.

Потым стала крыўдна, што мы знаходзімся ў Еўропе, быццам бы недурныя людзі, а жывём, як не ў самых лепшых краінах Афрыкі. Захацелася нешта змяніць. У палітыцы я не дасведчаны чалавек, дый, як высветлілася, актыўных беларусаў, якія гатовыя нешта рабіць, менш, чым сілавікоў, таму грамадзянская актыўнасць у палітычным агульнарэспубліканскім плане магчымая толькі падчас прэзідэнцкіх выбараў(стаць назіральнікам у выбарчай камісіі і Плошча). Таму нешта мяняць я пачаў з сябе. Пачаў чытаць беларускіх класікаў, цікавіцца гісторыяй дый мовай. Так бы мовіць, здарылася культурная рэвалюцыя ўва мне.

Беларускае слова — для шараговага беларуса — адзіны дзейсны спосаб нешта змяніць у краіне. Нацыянальна накіраваных беларусаў не так і шмат, але, калі і яны ў штодзённым жыцці не карыстаюцца мовай, гэта журбінка. Дзяржава мову не падтрымлівае, вёска, дзякуючы зомбаскрыням, даўно русіфікавалася/атрасянілася, сталая інтэлігенцыя памірае фізічна. Не хочацца быць тым пакаленнем, на якім скончыцца беларуская нацыя.

**Яўген Касцюкевіч, Мінск**

## «Лепш газеты не выпісваць...»

Хачу расказаць, як у сталіцы дастаўляюць газеты.

Першыя перабоі ў дастаўцы газет АПС №125 пачаліся ў 2011, адзінкавыя выпадкі былі ў 2012. З канца ж лістапада 2012 стала ледзь не нормай дастаўляць газеты са спазненнем на дзень. Даходзіла і да таго, што газеты сталі паступаць тры, а тое нават і два разы на тыдзень. У выніку звярнуўся са скаргай у АПС №125 на імя яго начальніка. Ніякага адказу з пошты не было.

Тады праз два месяцы звярнуўся ў «Прэсс-бол», і той ужо ад свайго імя накіраваў скаргу ў «Белпошту». У дасланым адказе прызнана, што такі факт меў месца праз складаную кадравую сітуацыю (у наяўнасці тры паштары з шасці паводле штату), паведамлена, што на дапамогу прыцягваліся супрацоўнікі іншых паштовых аддзяленняў, а таксама спецыялісты РУП «Белпошта», што паштальён за нядобрасумленную працу пазбаўлены прэміі і па сканчэнні кантракта звольнены, начальніку АПС №125 даручана ўстанавіць кантроль за дастаўкай газет на мой адрас.

Дзесьці, мабыць, з чэрвеня газеты сталі прывозіць (як і тым падпісчыкам з вуліц Ложынскай, Астрашыцкай і іншых, хто скардзіўся на працу АПС №125). Пратрымаліся яны два месяцы. Потым зноў пачалося. Не мінала, бадай, тыдня, каб хоць раз газету(-ы) даставілі своечасова.

Высветліць на пошце прычыны такой сітуацыі надзвычай цяжка — усе нейкія затурканыя (у аддзеле дастаўкі большасць супрацоўнікаў — пенсіянеры). Даведаліся ўсё ж, што ў іх то шафёр / паштальён не можа трапіць у пад'езд (маўляў, яны камусьці звоняць у дамафон — іх «пасылаюць». Хоць распаўсюднікі «Ва-банка», «Мінска на ладонях», рознага рэкламнага смецця неяк праходзяць), то ключа ад пад'езда няма, то бракуе паштальёнаў, бо малыя заробкі (гэта праўда), то яшчэ якая трасца. Затое ўжо не раз чулі ад супрацоўнікаў пошты, што «лепш газеты не выпісваць…»

**Эдвард Карбановіч, Мінск**

**P.S.** А на Магілёўшчыне, дзе шмат у якіх раёнах скасавалі паштовыя аддзяленні, просяць жыхароў выпісваць тыя газеты, якія выходзяць не больш, як два разы на тыдзень.

**Пытанне — адказ**

## Дадаткі для Андроіда і Айфона

Я чытаю «Нашу Ніву» з 2008 года і зразумеў, што ваша выданне стала самым аб'ектыўным і адэкватным з усіх СМІ. Было б здорава, калі б вы запусцілі дадатак на Андроідзе і Айфоне, з платнай падпіскай на выданні.

Вялізны дзякуй вам за вашу працу і выдатнае асвятленне падзей.

**Глеб Сноў, gmail.com**

**Ад рэдактара.** Мы раздумвалі над ідэяй запусціць дадаткі пад Андроід і Айфон, але пакуль адмовіліся, бо іх распрацоўка каштуе вельмі дорага і пакуль не акупіцца. Мы імкнёмся кожны наяўны ў нас грош размяркоўваць з максімальнай эфектыўнасцю.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Пастар у гарсавеце

Нячаста сустрэнеш такога чалавека, як **Віктар Аксяневіч**.



Ён не проста апантаны беларушчынай і глыбока веруючы чалавек, але яшчэ дэпутат мясцовага гарсавета. Юрась адказна развівае спорт у Белаазёрску і выкладае ў гуртку шахматы. Завітаўшы ў мясцовы гарсавет, я пагутарыла з Юрасём пра дзіўнае спалучэнне паклікання і працы, пра лёс чалавека, які з'ехаў са сталіцы разам з жонкай у маленькі горад.

### Былы маладафронтавец

Я выправілася ў гарсавет па абедзе, горад абсалютна пусты, за ўвесь час трапіліся на вочы адна машына і некалькі мінакоў. Адчыняю дзверы — выбягае сабака, пухнаты, прыгожы, грэўся, напэўна, там ад вялікага марозу. «Штосьці не так,» — падумала я.

Падымаюся на трэці паверх, іду па калідорах, дзе ледзь не падаю, бо чапляюся аб падраны лінолеум, рамонт на апошні паверх яшчэ не дайшоў. Нарэшце мяне сустракае Юрась.

Вялікі кабінет, шмат прасторы, два сталы, на стале паперы, сцяжок, кветкі — стандартны кабінет стандартнага гарсавета.

Юрась — малады хлопец у джынсах, кучавы, з абругам на валасах, вочы блакітныя, ветлівыя, на твары ўсмешка.

Юрась Аксяневіч нарадзіўся і жыў у Мінску. «У 2002 годзе яшчэ думаў, што Лукашэнка нармальны. Калі жывеш у сваёй ракавіне, цябе не так ужо і хвалюе знешні свет». Пасля ў выніку пэўных абставін лёсу Юрась пазбавіўся сваёй «ракавіны» і трапіў у шэрагі «Маладога фронту» і БХД. У «Маладым фронце» знаёміцца са Змітром Дашкевічам, пачынае наведваць беларускамоўную царкву Яна Прадвесніка.

### Адвучыўся ў Акадэміі кіравання

Ужо ў 2006 наш герой ад першай ночы быў на Плошчы і разам з усімі крычаў «Жыве Беларусь!». «Але я тады яшчэ не быў такім апантаным апазіцыянерам, я выйшаў на Плошчу, бо быў супраць вынікаў выбараў. У той час мая сваячка была старшынёй выбарчай камісіі і (па сакрэце) казала, што лепш туды не лезці».

У той жа час Юрась вучыўся дыстанцыйна ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце. Пасля разгону намётавага мястэчка адседзеў «свае заслужаныя» 15 сутак.

«Пра гэта, канечне, даведаліся ў Акадэміі і хацелі адлічыць, але чамусьці нікога не адлічылі. Яшчэ мне пашчасціла, што за мяне заступіўся мой куратар». Паралельна Юрась вучыўся багаслоўю ў каледжы Хрысціян веры Евангельскай. Дзяржаўны служачы-багаслоў — рэдкае спалучэнне.

**Калі бачу, што дзеці цікавяцца шахматамі, я вельмі цешуся**

Далей — вяселле. Жыць з бацькамі маладыя не хацелі і таму пасля вучобы ў духоўным каледжы па накіраванні паехалі ў Сянно, дзе Юрась дапамагаў пастару. «Але я бачыў, як цяжка там было маёй жонцы. Да таго ж там ну зусім працы няма. Ніякіх прадпрыемстваў. Ваду даюць не заўсёды. У многіх кватэрах стаіць печка, таму жыццё там, канечне, для аматараў. Тым больш жонка была ўжо цяжарная, і мы вырашылі паехаць на яе малую радзіму — у Белаазёрск».

### «Так бывае»

На сёння Юрась працуе ў гарсавеце, адказвае за ўсю спартыўную дзейнасць горада, за ўсе спартыўныя гурткі ды мерапрыемствы. А пасля працы бяжыць у мясцовы ЦПП (цэнтр пазашкольнай працы), дзе вучыць дзетак гульні ў шахматы. «Я заўсёды любіў шахматы, гэта вельмі інтэлігентны від спорту». Дарэчы, у шахматны гурток Юрасю дапамог уладкавацца былы камуніст, які на старасці год прыйшоў да Бога. «Так бывае».

**Людзі баяцца згубіць свае наседжанае месца, хоць атрымліваюць капейкі »**

Жыць у маленькім горадзе Юрасю падабаецца. «Мінск карысны хіба тым, што можна зарабіць добрыя грошы. А што тычыцца сямейных каштоўнасцяў, то іх развіццю вельмі спрыяюць маленькія гарады. Да таго ж тут вельмі добра гадаваць дзетак. Ад чыстага паветра і прыроды — да вялікай колькасці гурткоў». Але, па словах Юрася, існуе праблема празмернай колькасці часу. «Яго шмат, моладзь часам не ведае, чым сябе заняць, і адсюль усе праблемы».

Юрась — былы пастар, і для яго вельмі істотна, наколькі людзі горада рэлігійныя. Жаданне ладзіць шматлікія хрысціянскія мерапрыемствы ў гэтым горадзе ніколі не знікае. «Мяне вельмі дзівіць спецыфіка веры мясцовых жыхароў, большасць з іх пазіцыянуе сябе як праваслаўныя, а на практыцы гэта ўсё спалучана з бабкамі-шаптухамі ды нейкімі чарамі».

### «Чаго мне баяцца»

«Наркаманаў тут шмат, я здзівіўся. Дзе яны тут хаваюцца, не ведаю. Людзі скардзяцца, а іх нават не забіраюць. Я пытаюся: «Чаму іх не затрымліваюць?» А мне кажуць, што павязана ўсё. Магчыма так і ёсць. Бо навошта саджаць, гэта ж павялічвае крымінальную статыстыку горада».

Што тычыцца заробку, то ў гарсавеце Юрась атрымлівае каля 2-х мільёнаў, пасля бяжыць на працу ў шахматны гурток, дзе яшчэ палова стаўкі, яшчэ мільён. Такія грошы зусім невялікія, калі дома чакае цяжарная жонка з 8-месячным немаўляткам. «Мая жонка хвалявалася пра наступствы нашай гутаркі. А чаго мне баяцца? Згубіць пасаду, дзе я атрымліваю 1,9 мільёна? Гэта смешна. Людзі баяцца згубіць сваё наседжанае месца, хоць атрымліваюць часам капейкі. Што, у мяне рук ды ног няма, каб рабіць нешта іншае? Тут можна жыць на меншыя грошы, чым у Мінску. Зняць двухпакаёўку ў Мінску можна ад 400-500 даляраў, а ў Белаазёрску каля 50 даляраў за двухпакаёўку».

### Беларуская мова як пірсінг

Але, як кажа Юрась, нягледзячы на ілюзорную забяспечанасць, людзі бунтуюць, бунтуюць ціха, унутрана. «Але як бы банальна ні гучала, але сапраўды яны задаюцца пытаннем — «А можа так і трэба?» Людзі будуць жыць супакойна без бунту нават пры самых мінімальных заробках. Аднойчы я гутарыў з бабуляй, якая сказала мне: «Я не люблю Лукашэнку, але буду за яго галасаваць». Я не ведаю, што можа іх ускалыхнуць. Для іх галоўнае, каб іх не кранаі, галоўнае мір навокал. Але ж які мір, калі людзі знікаюць, ці ніхто гэтага не заўважае, ці не жадаюць заўважаць».

Па словах Юрася, можна жыць у любым куточку Беларусі, калі побач любімая сям'я і праца, якая табе падабаецца. «Калі я бачу, што я патрэбны і дзеці цікавяцца шахматамі, я вельмі цешуся. Хочацца, канечне, каб больш хадзіла. Але ўжо варта нешта рабіць, калі бачыш, што хоць аднаму чалавеку патрэбны ты і твая праца»

Што тычыцца стаўлення да беларускай мовы ў гэтым мястэчку, дык яно даволі спецыфічнае. «Нават пастар у царкве сказаў мне, што той, хто размаўляе на беларускай мове, імкнецца вылучыцца, як тыя, што робяць сабе пірсінг ці крычаць пра сваю непаўторную індывідуальнасць. Ну што гэта такое? Ну які ж гэта беларус, які не размаўляе на беларускай мове, ды ладна яшчэ не размаўляе, а шмат тых, хто проста не паважае мову. Калі мы хочам, каб беларуская мова жыла, трэба прыняць, што ёй будуць карыстацца і злачынцы, і тыя самыя наркаманы».

### Гарсавет раскрывае магчымасці

У дзень нашай гутаркі Юрась вызваляецца раней, яму трэба бегчы ў гурток, дзе яго чакае хлопчык, з якім вядуцца індывідуальныя заняткі, пазней, а 17 гадзіне, прыйдуць усе астатнія дзеткі. Самым маленькім, дарэчы, толькі 5 гадкоў. Але і яны ўжо актыўна распраўляюцца з шахматнымі камбінацыямі.

«Ведаеце, усё ж такі праца ў гарсавеце дае шматлікія магчымасці. Гэта, канечне, вабіць. На маленькі горад пару б актыўных людзей — і сапраўды можна зрабіць тут шмат добрых справаў. Шмат хто, канечне, тармозіць у працы, але і з гэтым можна змагацца. Да таго ж нават улада пойдзе насустрач табе, калі бачыць, што намеры твае чыстыя і карысныя для горада. Тут не адны пачвары ці робаты сядзяць, кожны з іх чалавек і з кожным можна знайсці агульную мову. Прагрэс тут будзе, калі я буду пры ўладзе *(смяецца)*».



**Вольга Гарапучык, Белаазёрск**

# Даведка нацыяналіста

Піша **Стась Карпаў**.



Для беларускіх нацыяналістаў не мае значэння колер скуры, разрэз вачэй і нацыянальнасць беларуса. Сярод нас ёсць прадстаўнікі розных рас і краін

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### А хто там і дзе?

Недзе год таму ў нас з Юрыем Зісерам адбылася невялікая дыскусія на тэму нацыяналізму. Ну такая, дыдактычная: што такое добра і што такое кепска. Важнасць гэтай размовы для мяне была ў тым, што на момант нашай сустрэчы я і забыў, што базавыя паняцці, якія нібыта і не патрабуюць абмеркавання, таксама варта ўмець даказваць ці прынамсі звязна выкладаць.

Вы, памятаю, моцна здзівілі мяне адказам на пытанні чытачоў «Нашай Нівы», сказаўшы, што варта замяніць герб «Пагоня» ў інтарэсах брэндынгу, бо ў Літвы такі самы, а гэта не камільфо.

Памятаю, я яшчэ падумаў, што вы б, напэўна, не сталі мяняць сваю маму на якую-небудзь іншую, нават у тым выпадку, калі б у яе знайшоўся двайнік. Падумаў, але прамаўчаў. А пасля, ведаеце, тое ды сёе. Здзіўляўся некаторым вашым учынкам і статусам, калі вы выступалі ад імя беларускага грамадства і тут і там. Хадзілі на сустрэчу з тым, каго вы назвалі «лідарам нацыі», і радаваліся мудрасці невялікіх порцый кавы на прыёме, добрым прыбіральням і махровым ручнікам.

Пра Майдан казалі, што там усіх, умоўна кажучы, падманулі.

А вось нядаўна пра ўшанаванне памяці Жызнеўскага ў Курапатах вы сказалі, што «аплакваюць бамжа» і што «БТ адпачывае».

Будзем справядлівымі. Вы праз некалькі гадзін удакладнілі, што думку сфармулявалі некарэктна, а карэктна будзе так: забітага вам шкада, але ікону з яго рабіць не варта. Не ўпэўнены, што «ўдакладненая» думка мае сувязь з папярэдняй, але ведаеце якая штука, я, напрыклад, таксама думаў, што ікону рабіць не варта. Але, падумаўшы так, я адразу вырашыў: ну і заткнуся. Памаўчу. Хай тыя людзі, для якіх гэта важна, ушануюць яго памяць. Калі трэба — хай у Курапатах. Я далёкі ад заяваў, што ўшанаванне памяці забітага хлопца неяк можа зняважыць курапацкія крыжы.

Даруйце мне такі персаналізаваны ўступ здалёк, але сэнс у ім вось які. Нацыяналізм, у якім вы бачыце пагрозу, — гэта тое пачуцце «неабыякавасці і зацікаўленасці», якое, будучы часткай грамадзяніна, дае яму права выказвацца з тае прычыны, што выказвацца наогул варта толькі па тых пытаннях, якія табе неабыякавыя.

Думаецца, што тыя, хто дэманізуе нацыяналістаў, проста ахоўваюць сваё імкненне рэалізоўваць «сферычныя правы ідэальна-пругкага касмапаліта ў вакууме». У адрыве ад кантэксту. Знесці помнік архітэктуры, каб забяспечыць зручны падвоз жратвы ў сельпо, — вось у чым метафарычная сутнасць пазіцыі неэмацыянальнага прагматыка. Усе гэтыя БАМы, пяцігодкі, новыя генерацыі «рабочых людзей», інтэрнацыянал, «адрачомся ад свету старога», класавае мастацтва і адна мова на ўсіх: усё адтуль. Адтуль, дзе няма месца нацыяналізму. Адна прагматыка.

### Маліся ж, бабулька, да бога, каб я проста ніколі не быў!

А пра нацыяналізм гэты пачварны я думаю і чую ўсялякае гадоў з дзесяці. Хто такі беларускі нацыяналіст? У чым яго страшная шкода і чаму так ад гэтага нацыяналізму засцерагаюць? Усе ж мы, нацыяналісты, сутыкаліся з «не дай бог, трым-тым-тым, «яны» прыйдуць да ўлады».

Во як. Не дай бог...

— А хто гэтыя «яны»? І што страшнага здарыцца?

— Ды вы ж і самі разумееце, што вы тут разводзіце дэмагогію.

Беларускі нацыяналіст — аб'ект дамоўленасці. Калі яго абмяркоўваюць два «ненацыяналісты», то іхны кансенсус у тым, што нацыяналіст — гэта ўсё, што ў стане нарадзіць іх калектыўная фантазія. Акрэсліваць нацыяналіста тэзісна не трэба. Ён — наш бабай.

Беларускія нацыяналісты супрацоўнічаюць (як усе ведаюць) з фашыстамі, а па сутнасці імі і ёсць, яны (усе мы памятаем) вывозілі босых рускамоўных жанчын з малымі дзецьмі ў маразы да расійскай мяжы. Яны (не сумняваемся) гатовыя падняць яўрэйскае пытанне і (самі ведаеце як) вырашыць. А яшчэ «нацыяналізм — апошні прытулак нягодніка». Ну! Праўда, Джэксан казаў канкрэтна аб практыцы высылаць англельскіх зняволеных на флот — то бок практыку запісвання ўсялякага чалавечага смецця ў апірышча дзяржавы, а ў арыгінале казаў і не пра нацыяналізм, а пра патрыятызм. Ну і што з таго. Гучыць ёміста.

### Нацыяналіст — адна штука, патрыёт — тры штукі

На першы погляд што кепскага ў тым, каб нейкім словам абазначаць умоўнага шызіка «ад нацыі»? Ды нічога. Пытанне ў тым, якая ў яго альтэрнатыва. Дапусцім, шызік — гэта адхіленне. Тады як назваць нармальнага? У Беларусі ён называецца патрыётам.

— Вы хто?

— Я — патрыёт.

— А хто такі патрыёт?

— Той, хто любіць радзіму!

— А хто такі тады нацыяналіст?

— Ды вы ж і самі разумееце, што вы тут разводзіце дэмагогію.

Праблема ў тым, што патрыётамі ў нас называюцца ўсе астатнія, хто не «нацыяналіст». Патрыётамі лічаць сябе ўсе людзі, якія проста звязваюць сваю будучыню з Беларуссю, і нават частка тых, хто не звязвае. У нас уся краіна ў гаўне, і ўсе, куды ні плюнь, патрыёты і «вольна дыхаюць».

Патрыётаў у нас па тыпажах — штукі тры.

Па-першае, беларускімі патрыётамі нязменна называюць сябе людзі, якія падтрымліваюць тое, што называецца ў нас «курсам прэзідэнта». Але паколькі прэзідэнт мяняе курс з зайздроснасцю метранома і пры гэтым не страчвае іх любові, ёсць меркаванне, што «patre» такія патрыёты ўспрымаюць дастаткова літаральна. Асаблівасцю беларускага patre-ёта ёсць тое, што ён амаль абавязкова не ведае ні беларускай мовы, ні беларускага мінулага, затое вельмі дакладна ўяўляе сабе беларускую будучыню.

Другі тып — людзі, якія «курс прэзідэнта», наадварот, не падзяляюць і менавіта ў гэтым бачаць сваю карысліваць для Беларусі — не любіць Лукашэнку. Іх любоў да радзімы выяўляецца найперш у тым, што яны маюць пэўную палітычную пазіцыю. Звычайна гэта імкненне да еўраінтэграцыі, якая не разглядаецца імі ў межах мэтазгоднасці для краіны, бо сябе яны бачаць у перспектыве як грамадзянаў Еўропы, а не Беларусі. То бок Беларусь — тое, пра што ім даводзіцца думаць, а не тое, пра што ім думаць хочацца. Да беларускай гісторыі яны звычайна ставяцца паблажліва, бо «нас усё адно чакае агульны еўрапейскі светлы дом», мову ведаюць слабавата ці не ведаюць зусім, але ганарацца тым, што паважаюць чужое права на ёй размаўляць.

> **Хачу дажыць да таго моманту, калі, пачуўшы «нашы гуляюць», я дакладна буду ведаць, што гэта пра беларусаў.**

Ну, і трэцяя група — людзі, што «тут жывуць» і «любяць». Ім падабаецца прырода, у іх ёсць любімы футбольны клуб, тут іх сябры, блізкія, дом і праца. Іх грамадзянская актыўнасць можа быць роўнай нулю, але хто мы такія, каб называць іх непатрыётамі?

### Дыягназ, patre!

Такім чынам, відавочна, што для беларускага патрыёта неабавязковае веданне беларускай мовы, культуры і гісторыі. Акрамя таго, не ёсць неабходнай і наяўнасць нейкай палітычнай пазіцыі. Інакш кажучы, патрыёт можа быць поўнасцю рускамоўным жыхаром Беларусі з нулявымі ведамі пра культурны кампанент краіны і нулявой жа пазіцыяй па самых важных палітычных пытаннях жыцця краіны.

Нацыяналіста такім уявіць наўрад ці магчыма. Значыць, адзінае, што мы можам дакладна сцвярджаць пра нацыяналіста, — гэта тое, што ён — чалавек, у жыцці якога істотнымі кампанентамі ёсць беларуская мова, культура, гісторыя і палітыка, і гэтыя кампаненты ён гатовы ашчаджаць і бараніць.

### Слава нацыі і фарэль!

Вось усе прыводзяць у прыклад тыя нацыі, грамадзяне якіх умеюць адно аднаму дапамагаць і дома, і на чужыне. Яўрэі, армяне, кітайцы і г.д. Яны адно аднаго цягнуць-пацягнуць і такі выцягнуць. Зайздросная якасць. А беларусы нібыта такой уласцівасці не маюць. У нас, як прынята лічыць, хаты з краю, чарка і скварка і абы не было вайны. І вялікая праблема такога абагульнення ў тым, што яно выводзіцца не на базе прадстаўнікоў нацыі, а на базе людзей, якія жывуць побач з імі. Гэта тое самае, што вывучаць кіта, даследуючы не кіта, а, скажам, вусаногага рачка на той падставе, што рачок усё жыццё праводзіць побач з кітом і за ягоны кошт харчуецца. Чалавек, які ідзе на мітынг, каб абараніць свой сцяг, які дакладна ведае, што яго будуць біць і што ён не можа перамагчы, — дзе, як вы думаеце, яго хата адносна краю?



**Стась Карпаў**

Нарадзіўся ў Мінску ў 1983. Скончыў філфак БДУ. Дызайнер, публіцыст, паэт.



Уладзімір Лобач

# Прагноз надвор'я

Беларусы, якія размаўляюць па-беларуску, напрыклад, у значна большай ступені схільныя да ўзаемадапамогі. Яны ўнутры нашай вялікай краіны ўяўляюць сабой невялікі, але з'яднаны народ. Мне дашнікі, ведаеце, за апошнія пару гадоў штрафаў ужо напрабачалі баксаў на дзвесце. Проста таму, што мой беларускамоўны маркер паказаў ім, што я «свой». Менавіта таму наш патрыятычны «вусаногі рачок», які да бліжняга ставіцца, як да набору бялкоў, зняважліва называе беларускамоўнага «нацыяналістам» у значэнні «фашыста», проста пачуўшы яго на вуліцы. Патрыёт лічыць, што ў гэтым ужо і склад злачынства, і прысуд. Ну, што сказаць. Беларусы (беларускамоўныя і частка рускамоўных) — сапраўды нацыяналісты. Але гэта не дыягназ. Гэта вартасць. Гэта — гонар і наша апошняя надзея.

Пытанне простае: хто для нашай краіны больш каштоўны? Наш умоўны патрыёт, якому ў нас паўсюль дарога, ці наш умоўны нацыяналіст, прыходам якога да ўлады прынята пужаць?

Зразумела, што з пункту гледжання заканадаўства галасы абодвух гэтых умоўных людзей тоесныя. Яны ў нашым сацыялістычным свеце маюць аднолькавыя правы. І той, якога «эта ваша паліціка не інцірысует», і той, які дакладна ведае, куды і як павінна рухацца яго краіна. Закон не турбуе ваш унутраны свет. Закон турбуе факт наяўнасці ў вас пашпарта. Прыехаў у Беларусь, атрымаў пашпарт — херак! І ты ўжо беларускі патрыёт. Напрыклад, з тых патрыётаў, якія проста «за ўласць». Таму я вам раскажу вось што.

**Для беларускага «патрыёта» неабавязковае веданне беларускай мовы, культуры і гісторыі**

5 снежня, дарагія чытачы, у Ізраілі быў мітынг. Там нелегальныя эмігранты з Эрытрэі (у якой самае станоўчае, згодна з нацыянальным анекдотам, — аналіз на ВІЧ) і Судана ў колькасці ажно 15 тыс. арганізмаў зладзілі — што б вы думалі — забастоўку!

А хацелі нелегалы (я цытую) «трох простых рэчаў». Як сказаў найактыўнейшы чорны актывіст з тварам, скажоным ад гневу: «перастаць ставіцца да нелегалаў як да злачынцаў», выпусціць затрыманых нелегалаў з турмы і даць ім статус бежанцаў. Во як! Вінаватыя ў злачынстве, а менавіта ў нелегальным перасячэнні мяжы з боку Егіпта, патрабуюць не ставіцца да іх як да злачынцаў, а аплаціць іх пражыванне і даць у перспектыве роўныя з яўрэямі правы.

Штука ў тым, што, пакрысе засяліўшы паўднёвы Тэль-Авіў, яны зрабілі гэтае месца небяспечным. Сэксуальны гвалт стаў там справай звычайнай. І бедныя яўрэі вымушаныя былі нават пабудаваць сцяну ўздоўж мяжы, каб абараніцца ад людзей, якія, магчыма, праз пэўны тэрмін стануць ізраільскімі патрыётамі. Праўда, ёсць адна акалічнасць, як сказаў мне адзін мой знаёмы з Ізраіля: «Тут не негры, тут афра-афрыканцы, а вось для ўсіх белых ёсць адна назва ва ўсіх афрыканскіх мовах — музунгу, прыкладна аналагічнае слову «жыд» у рускай мове для габрэяў». Як беларускія patreёты называюць нас «опамі», «нацыяналістамі», «фашыстамі», «пятай калонай» і г.д., так чорныя неафіты будуць называць сапраўдных грамадзянаў Ізраіля «музунгу» і радавацца сваім роўным правам.

На памяць гаспадыні: калі вы хочаце ўбачыць такога чалавека ў Беларусі — пашукайце сярод вайскоўцаў на пенсіі, якіх у нас дафіга. І з пашпартамі і з лаканічнымі думкамі ў галавешках. Я падчас назірання на выбарах бачыў аднаго такога, які ўчыніў на выбарчым участку дэбош, бо ў спісе кандыдатаў у прэзідэнты «на нашай рускай зямлі» не знайшоў Пуціна.

Ці не падаецца вам, калі б мігранты з Эрытрэі любілі сваю краіну болей, чым жаданне гвалціць ізраільскіх жанчын, яны б займаліся найперш аднаўленнем уласнай бацькаўшчыны, а не давядзеннем да ручкі чужой? Калі б яны самі былі нацыяналістамі сваёй краіны, а не фашыстамі ад сваёй расы, ці не сядзелі б яны дома, ствараючы свае ўласныя кібуцы, як яўрэі, якія зрабілі аазіс пасярод пустэльні і, мабыць, не для таго, каб пасля бараніцца ад «патрыётаў Судана», якія імкнуцца стаць «патрыётамі Ізраіля»?

Дык вось, я, сцвярджаючы, што яўрэі — нацыяналісты, задаю пытанне: што яўрэйскім нацыяналістам рабіць, з будучымі чорнымі ізраільскімі патрыётамі, якія ўжо цяпер прагнуць прызнання іх правоў на гвалт, паразітычны лад жыцця і лічаць сябе грамадзянамі па факце перасячэння мяжы? Адказ у тым, што эрытрэйскія бандыты ніколі не стануць грамадзянамі Ізраіля, бо яўрэі іх выпруць сраным венікам туды, адкуль яны і прыехалі, бо ў нацыянальнай краіне, якой кіруюць нацыяналісты, нацыянальныя інтарэсы супадаюць з інтарэсамі індывідуальнымі.

### Простая справядлівасць

Мне, дапусцім, ясна, што беларускі патрыёт, які млява верыць, што ягоны пафігізм — гэта і ёсць (брэндаваная гома саветыкусам) «беларуская талерантнасць», не ў стане асэнсаваць нацыянальныя інтарэсы маёй краіны: яму гэта не хочацца абдумваць.

Патрыёт-еўраінтэгратар з лямпачкай слабаўсвядомленых «еўрапейскіх каштоўнасцяў» над макавінкай — ці будзе для маёй краіны больш карысным, калі гэтая казуістычная ўлада скончыцца? Я, напрыклад, не хачу еўрапейскіх каштоўнасцяў у выглядзе прызнання права негра называць мяне «музунгу» і сяліцца адасобленымі гета, дзе на вуліцах будуць забіваць ахвярных бычкоў.

Я хачу камфорту і справядлівасці ў маёй краіне на базе дамоўленасці ўнутры найперш нацыяналістаў. Так, нацыяналістаў. Я хачу ўзважанага дыялогу: што нам пасуе, а што — не.

Некаторым людзям, дзякуй богу, зразумела, што Беларусь — не чысты аркуш. Нам не трэба «адракацца старога свету». І калі мы адсталі ад Еўропы, то давайце даганяць яе напрасткі, а не хадзіць па яе слядах, трапляючы ва ўсе пасткі, дзе яна пабывала.

Калі паўстане пытанне мовы, я б не хацеў чуць завыванні прыезджых з «эрытрэі», што я парушаю правы чалавека, пра якія яны самі даведаліся ўчора. Хочаш гаварыць па-эрытрэйску — не выязджай з факанай Эрытрэі. Мяне не турбуюць яго «чалавечыя правы» на навучанне на эрытрэйскай мове. У яго павінна быць права жыць па сваіх правілах у сябе дома і па маіх — у мяне. Гэтых правоў, па-мойму, хопіць.

Пра архітэктуру хай размаўляюць людзі, гатовыя, умоўна кажучы, задушыцца за кожную цагліну старажытнага мура. Такія людзі не будуць ставіць на кожны праваслаўны храм гэтыя пачварныя ўсходнія цыбуліны.

Прапанаваць адмовіцца ад «Пагоні», я думаю, можа той, хто

**Калі паўстане пытанне мовы, я б не хацеў чуць завыванні прыезджых з «эрытрэі»**

прынамсі гатовы біцца за іншы герб, а не той, хто паблажліва разважае пра інтэрнацыянальны брэндынг і персанальную эстэтычную парадыгму. Гэта справядліва, як мне падаецца.

### Хто дапаможа нам?

Паколькі для патрыёта, у адрозненне ад нацыяналіста, паняцце нацыі размытае, для яго няма і нацыянальнага інтарэсу, бо ўсведамленне апошняга — вялікі крок да нацыяналізму. Дарэчы, пра азначэнні нацыяналізму. Мне даспадобы такое: «Кірунак палітыкі, галоўным прынцыпам якога з'яўляецца тэзіс аб каштоўнасці нацыі як найвышэйшай формы грамадскага адзінства і яе першаснасці ў дзяржаваўтваральным працэсе. Як палітычны рух нацыяналізм імкнецца да адстойвання інтарэсаў пэўнай нацыянальнай супольнасці ў адносінах з дзяржаўнай уладай».

У спрэчках я часта чую папрок у тым, што нацыяналіст успрымае нацыянальную супольнасць як беларускамоўную. Гэта не так. Псіхічна здаровы нацыяналіст успрымае нацыянальную супольнасць як супольнасць свядомых беларусаў, але ў гэтай супольнасці бачыць важным наяўнасць беларускага моўнага кампанента.

А важнасць якога яшчэ, пардон, моўнага кампанента ён павінен пастуляваць? Удмурцкага? Эрытрэйскага? Рускага? Калі не беларускі нацыяналіст паставіць беларускую моўную праблему, то хто гэта зробіць? Рускі нацыяналіст? Фінскі? Дацкі?

Тыя, хто выступае супраць беларускага нацыяналізму, выступаюць супраць адзінай сілы, якая гарантавана трымаецца культывацыі нацыянальнага кампанента ўнутры беларускай нацыі. Калі гэта прызнаецца заганным, то хацелася б пачуць — што канкрэтна? Заганная мова? Літаратура? Гісторыя?

Давайце ўявім, што ўсе беларускія нацыяналісты зніклі. Усе да аднаго. Што застанецца ад гэтай краіны? На базе чаго будзе функцыянаваць дзяржава? Які інтарэс будзе прызнаны нацыянальным?

Арганічная насцярожанасць чалавека да чужой культуры без усведамлення межаў сваёй прывядзе да непрыняцця любога чужога на індывідуальным узроўні. Не таму, што «чужы» парушае нашы ўстоі, а таму, што ён не падобны персанальна да мяне.

### Думай пра сваё

Паглядзіце. Для беларускіх нацыяналістаў не мае значэння колер скуры, разрэз вачэй і нацыянальнасць беларуса. Сярод нас ёсць прадстаўнікі розных рас і краін. Беларускую культуру стваралі безліч людзей, ад Змітрака Бядулі да Такінданга. Для беларускага нацыяналіста мэтай ёсць абарона і пашырэнне беларускага, і калі нейкі, скажам, кітаец у Беларусі выкажа жаданне вывучыць, напрыклад, беларускую мову — ён стане аб'ектам ухвалення. Беларускія ж патрыёты са славянскага саюза, якія поўзаюць з праваслаўнымі харугвамі і імперскімі сцягамі — вось каму перашкаджаюць «хачы, чорныя, жыды» і астатнія «нярускія» проста фактам свайго існавання. Яны хочуць бачыць Беларусь у складзе вялікай імперыі, якая ў перспектыве, безумоўна, пакажа свету ўсё тую ж «mother of Kuzka».

Мне ні разу не прыйшла ў галаву думка супрацьпаставіць беларускую нацыю нейкай іншай. Паказаць яе выключнасць і прывілеяванасць, а менавіта гэта прыпісваюць нацыяналістам усе, хто адчувае ў дачыненні да іх нейкі няпэўны дыскамфорт. Дык чаму ж я, нацыяналіст, так мала думаю пра іншыя нацыі? Што ж я за страшны беларускі нацыяналіст, віна якога ў тым, што ён думае пра сваё, а на астатніх яму, па шчырасці, пляваць?

Сапраўдны беларус — гэта не кроў, а база ведаў і каштоўнасцяў. Наша пакуль што невялікая беларуская нацыя, раствораная ў вялікім беларускім насельніцтве, колькасна меншая за літоўскую і нават эстонскую. Але ў нашай нацыі значна болей мажлівасцей для экспансіі. У яе пад бокам мільёны патрыёта», якія не маюць каштоўнасцяў, бо ім не хапае ведаў і прыкладу. Ім не хапае нас.

* * *

Вось, дарагія мае. Я б хацеў дажыць да таго моманту, калі б мне ніколі-ніколі-ніколі-ніколі-ніколі не прыйшлося абмяркоўваць беларусаў. Ні іх «гаротную мову», ні іх «адабраную гісторыю», ні іх перспектывы як нацыі.

Я б хацеў дажыць да моманту, калі я не буду звяртаць увагу на тое, што тарахціць псіхічна хворы пасол, ці не вельмі разумны блогер, ці тоўсты футбольны каментатар.

Хачу не выязджаць за мяжу, як лазутчык, і не хадзіць па сваім горадзе, як партызан.

Хачу дажыць да таго моманту, калі, пачуўшы «нашы гуляюць», я дакладна буду ведаць, што гэта пра беларусаў.

Хачу выглядаць касмапалітам і рэнегатам на фоне большасці беларусаў.

Хачу шмат маленькіх вынасных кавярняў уздоўж вуліц. Каб кавярні былі як у Вільні, а шырыня вуліц — як у Менску. Хачу саксафаністаў у пераходах і газеты на прыступках крамаў. І, калі гэта ўсё спраўдзіцца, хачу ведаць, што я меў да гэтага дачыненне.

Хачу зноў убачыць канцэрт «Новага Неба» на прыступках Оперы, і каб трымаць свайго сына ў сябе на плячах, як калісьці мой бацька — мяне.

Хачу назад той самы NRM.

Хачу чуць, як дзеці называюць тат «татамі».

Хачу, каб вясковыя бабулі не саромеліся сябе і не зніклі. Хачу, каб усе ім казалі, якія яны цудоўныя, і прасілі іх не знікаць.

* * *

Кастрычнік рыхтуе блешні. Няспешна.
Спяшаемся мы. Каб паспець да зімы
выгнуць нервы дугой, пакінуць спакой
дзесьці далёка-далёка,
калі шчупакова вока
пільнуе цябе з-пад вады.
І большай бяды
на беразе тым не бывае,
калі шчупак абрывае
жылку ўжо ў трыснягах.
Цыгарка трасецца ў руках,
а потым чамусьці становіцца смешна.
Няспешна
сыходзіш. Вяртаешся зноў,
так і не ўбачыўшы сноў...

* * *

Куды вядзе дарога? На аблокі!
І белы свет, нязмерны і шырокі,
кладзецца на далонь маленькім
пазлам,
які не перадаць ні графікай,
ні маслам —
адно запомніць, каб не знік ён марна,
бо сонца падае і хутка будзе хмарна,
а гэта ўжо зусім другі расклад,
калі бяжыш між лужын неўпапад,
забыўшыся на пазлы і аблокі,
а цябе лупяць дажджавыя цмокі.

* * *

Калі разыходзіцца лёд пад нагамі,
гукнуць не паспееш ні людзям, ні маме
ратунку.
Думак апошніх не ўловіш ужо —
абы толькі скінуцца шэрым вужом,
каб краем палонкі вылазіць у свет,
нібы ў рай.
Жыццё не мільгне, як у кнігах бывае,
на мокрай ватоўцы сняжынка растае,
і ты гэта бачыш,
а значыць, —
жывы.
Сябра адзначыць спакойна: бывае.
Зноў лёду чакаем
і чыстай вады...

* * *

У ціхім восеньскім парку
Кімсьці забытую кнігу
Павольна гартае вецер…
Закладакаю між старонак
Падае ліст кляновы,
Што ведае ўсё на свеце,
Але забыўся на словы.

* * *

Дождж. Бясконцы дождж.
І дрэвы не схаваюць —
сілаў не маюць...
Кроплі працінаюць наскрозь,
шапочуць: ты — госць,
а я і так ведаю.
Ад тых часоў,
што князёўнай была Рагнеда,
госці змяняюць гасцей,
дзеці змяняюць дзяцей
і дождж не спыняецца.
Свет не змяняецца...

**Уладзімір Лобач**
Нарадзіўся ў 1972 у Наваполацку. Скончыў гістфак БДУ. Працуе выкладчыкам у Полацкім дзяржаўным універсітэце. Этнограф, паэт. Аўтар кнігі «Усясловы».

## ХАКЕЙ

### Апошні матч «зуброў»



**2 сакавіка мінскае «Дынама»** правядзе заключную хатнюю гульню рэгулярнага чэмпіянату КХЛ. На «Мінск-Арэне» «зубры» прымуць рыжскіх аднаклубнікаў. Пачатак а 17. Мінчукі даўно згубілі шанцы на працяг барацьбы ў плэй-оф.

## КАНЦЭРТЫ

### N.R.M. у Віцебску

**28 лютага ў клубе «Паддашак» (Кастрычніцкая, 12)** выступае гурт N.R.M. Білеты — 120 тысяч рублёў. Пачатак а 21.

### Amaroka

**28 лютага а 19-й у бары «Салтайм» (Незалежнасці, 131/1)** — канцэрт гурту Amaroka.

### Паліна Рэспубліка і Akute ў Гомелі

**28 лютага ў ГЦК (Ірынінская, 16)** пройдзе супольны канцэрт Паліны Рэспублікі і гурту Akute. Білеты — 80-100 тысяч рублёў. Пачатак а 19.

### Biplan

**2 сакавіка ў клубе Tarantino (Кастрычніцкая, 5)** гурт Biplan (Літва) выступіць з канцэртам, падчас якога прэзентуе беларускую версію песні «Amore». Пачатак а 19-й.

### :B:N: і Amaroka ў Магілёве

**2 сакавіка ў клубе Cuba (Першамайская, 29)** канцэрт ладзяць гурты :B:N: і Amaroka. Білеты — 50-80 тысяч рублёў. Пачатак а 17:30.

# Depeche Mode у Мінску



**Культавы гурт выступіць на «Мінск-Арэне» 28 лютага.** Білеты каштуюць ад 500 тысяч да 2 мільёнаў. Летась канцэрт Depeche Mode у Беларусі прайшоў пры аншлагу. Пачатак а 20.

### Дабрачынны канцэрт

**2 сакавіка ў Jack Club (Няміга, 12)** дабрачынны канцэрт у падтрымку Даніка Страшынскага ладзяць гурты «У нескладовае», Sun Road-21, Nizkiz, Юлія Глебава і «Час Speak».

### Аліна Арлова

**7 сакавіка а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** выступае Аліна Арлова (Літва).



## ВЫСТАВЫ

### Да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі



**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі (Незалежнасці, 116)** праходзіць выстава, прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Яна складаецца з фотаматэрыялаў, якія паказваюць, як увекавечана памяць паэта ў Беларусі, а таксама рэдкіх і найбольш каштоўных кніг бібліятэкі Пасольства Украіны.

### Стрыт-Арт

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (Незалежнасці, 47)** працуе выставачны праект «Стрыт-Арт». Экспазіцыя складаецца з фотафіксацый стрыт-арту, які існуе ў такіх геаграфічна аддаленых адзін ад аднаго культурных цэнтрах, як Варшава (Польшча) і Тбілісі (Грузія).

### Ліхтарт

**У галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** разгарнулася выстава «Ліхтарт», прысвечаная святлу ў філасофскім і практычным аспектах. Свяцільні — сімвалы сучаснай цывілізацыі, «эры кіраванага святла» (паводле Гастона Башляра). На выставе феномен «кіраванага святла» будзе трансляваца ў сучасных аб'ектах дызайну і візуальнага мастацтва. Удзельнікі «Ліхтарта» — больш за 70 дызайнераў і мастакоў.

### Кветкі для тых, хто любіць жыццё

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануюцца творы сучаснага літоўскага мастака Ёнаса Даніляўскаса. Выстава «Кветкі для тых, хто любіць жыццё» — гэта 30 работ мастака, створаных за два апошнія дзесяцігоддзі.

## ТЭАТРЫ

### 27 лютага

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

### 28 лютага

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Лялек** — Вянчанне

### 1 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Лялек** — Чырвоны капялюшык
**Оперы і балета** — Рыгалета
**Юнага гледача** — Дарога на Віфлеем, Шытая лялька Рэгедзі Эн

### 2 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Лялек** — Чароўная лямпа Аладзіна
**Оперы і балета** — Рыгалета
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 3 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Секунда

### 4 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Оперы і балета** — Карміна Бурана, Кармен-сюіта
**Юнага гледача** — Мешчанін у шляхецтве

### 5 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Оперы і балета** — Травіята
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

## КІНО

### У шахту па Мадонну

Паляўнічыя за скарбамі
Баявік, драма
**Рэжысёр:** Джордж Клуні
**У ролях:** Джорж Клуні, Мэт Дэйман, Біл Мюрэй, Кейт Бланшэт, Х'ю Бонэвіль, Жан Дзюжардэн, Джон Гудман
ЗША, 118 хв

Падчас Другой сусветнай вайны Фрэнк Стокс стварае спецыяльны атрад з мастацтвазнаўцаў і архітэктараў, якія маюць на мэце захаваць творы мастацтва ад знішчэння на акупаваных тэрыторыях. У складзе групы — людзі сталага веку, якія не мелі іншага шляху патрапіць на вайну, але яны захопленыя высокай мэтай. Атрад бярэцца за справу, адсочваючы, куды і як Гітлер, чыё войска ўжо церпіць паразу, звозіць найкаштоўнейшыя творы, хавае або паліць іх.
Стужка, рэжысёрам, аўтарам сцэнара і адным з галоўных акцёраў якой выступіў Джордж Клуні, заснаваная на рэальных падзеях. Пытанне, якое хвалюе стваральнікаў: ці вартае жыццё чалавека таго, каб аддаць яго за захаванне твора мастацтва — культурнага скарбу чалавецтва?
Фільм балансуе паміж драмай і камедыяй, апісваючы працу купкі людзей, якія толькі і здатныя, што ацаніць вартасць твораў, але не з'яўляюцца байцамі. Толькі вера і мужнасць дазвалаюць ім дасягнуць сваёй мэты.

**Настасся Уласава**



# Што застанецца пасля Сочы

Сочынская Алімпіяда падарыла беларускім заўзятарам шмат пазітыўных эмоцый.

З чатырох папярэдніх Алімпіяд беларусы агулам прывезлі восем медалёў. Сярод якіх быў толькі адзін залаты (Аляксея Грышына ў Ванкуверы). Цяпер жа маем пяць узнагарод найвышэйшага гатунку.

Тры залатыя медалі Дар'і Домрачавай, безумоўна, найлепшай біятланісткі свету, проста зараз. Трыумф Алы Цупер і Антона Кушніра ў лыжнай акрабатыцы. А таксама цяжкі рабочы медаль Надзеі Скардзіна. Выдатная нагода для гонару за сваю краіну. Але ў такой святочнай мітусні не трэба забывацца, што беларускі спорт сёння — гэта не толькі яркія перамогі, але і страта пазіцый у традыцыйна моцных для нас праграмах.

Мужчыны-біятланісты ў Сочы ніводнага разу нават не змаглі прабіцца ў дваццатку наймацнейшых. Хаця яшчэ 15 гадоў таму ад Сашурына, Рыжанкова, Айдарава, Папова ўсе чакалі толькі медалёў. Цяпер за радасць проста трапіць «у ачкі». І ніякага прагрэсу не назіраецца.

У жанчын, вядома, ёсць Домрачава і Скардзіна, якія, найхутчэй, выступяць і на наступнай Алімпіядзе ў Паўднёвай Карэі. Але глыбіня складу не такая вялізная. Што, у прынцыпе, і даказала Алімпіяда. Замест перспектыўнай уласнай моладзі было прынятае рашэнне ўвесці ў склад каманды натуралізаваную расейку Настассю Каліну. Мэтазгоднасць гэтага кроку абмяркоўваецца па сёння.

Два залатыя медалі ў фрыстайле. Такога яшчэ не было ніколі. Аднак тая ж чэмпіёнка Ала Цупер шчыра прызнавалася, што яе папрасілі дацярпець да Гульняў, бо не было кім замяніць. Ганна Гуськова пакуль не гатовая да вялікіх спаборніцтваў. А іншых не бачна зусім.

У мужчын дакладна сыдзе з фрыстайла ветэран Дзмітрый Дашчынскі, пад пытаннем — Аляксей Грышын. Алімпійскаму Антону Кушніру яшчэ ранавата думаць пра завяршэнне кар'еры. Гэта, вядома, пазітыўна. Радуе таксама траплянне ў фінал маладога Дзяніса Осіпава. Магчыма, гэта наша будучыня. Таму тут усё больш стабільна.

У лыжных гонках беларусы былі статыстамі. Ну, апроч фантастычнага бегу ў марафоне на 50 кіламетраў Сяргея Далідовіча. Аршанец, мабыць, выціснуў з сябе ўсё, на што быў здольны. У выніку заваяваў вельмі высокае пятае месца. Але для 40-гадовага спартсмена гэтая Алімпіяда дакладна апошняя.

Пра вынікі ў шорт-трэку і горных лыжах успамінаць увогуле не хочацца. А ў каньках і фігурным катанні нашы прадстаўленыя не былі зусім.

Яшчэ адным трывожным сігналам застаецца тое, што ўсе беларускія медалісты Алімпіяды пачыналі займацца спортам за межамі краіны. Скардзіна і Домрачава — у Расіі, Кушнір і Цупер — ва Украіне. Зразумела, агранка іх талентаў прайшла ў Беларусі, але база закладалася не тут. Гэта ставіць пытанне прафпрыдатнасці дзіцячых трэнераў.

Нават такі кароткі пералік праблемаў відавочна сведчыць, што не ўсё так добра наладжана ў нашай спартовай гаспадарцы. Таму поспехі Сочы могуць яшчэ больш усыпіць пільнасць нашых функцыянераў. Нашто нешта мяняць, калі і так усё добра?

**Зміцер Панкавец**

| Краіна | ① | ② | ③ | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| | Медалі | | | |
| 1.Расія | 13 | 11 | 9 | 33 |
| 2. Нарвегія | 11 | 5 | 10 | 26 |
| 3. Канада | 10 | 10 | 5 | 25 |
| 4. ЗША | 9 | 7 | 12 | 28 |
| 5. Галандыя | 8 | 7 | 9 | 24 |
| 6. Германія | 8 | 6 | 5 | 19 |
| 7. Швейцарыя | 6 | 3 | 2 | 11 |
| **8. Беларусь** | **5** | **0** | **1** | **6** |
| 9. Аўстрыя | 4 | 8 | 5 | 17 |
| 10. Францыя | 4 | 4 | 7 | 15 |
| 11. Польшча | 4 | 1 | 1 | 6 |
| 12. Кітай | 3 | 4 | 2 | 9 |
| 13. Паўднёвая Карэя | 3 | 3 | 2 | 8 |
| 14. Швецыя | 2 | 6 | 7 | 15 |
| 15. Чэхія | 2 | 4 | 2 | 8 |
| 16. Славенія | 2 | 2 | 4 | 8 |
| 17. Японія | 1 | 4 | 3 | 8 |
| 18. Фінляндыя | 1 | 3 | 1 | 5 |
| 19. Вялікабрытанія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 20. Украіна | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 21. Славакія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 22. Італія | 0 | 2 | 6 | 8 |
| 23. Латвія | 0 | 2 | 2 | 4 |
| 24. Аўстралія | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 25. Харватыя | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 26. Казахстан | 0 | 0 | 1 | 1 |

**Залаты скачок Антона Кушніра, ад яго чакаюць поспеху і на Алімпіядзе-2018 у карэйскім Пхёнчхане.**

REUTERS

**Цытата**



**«Прамаўчаць немагчыма»**

«Прамаўчаць немагчыма. Упершыню ў жыцці бачыла такое, хоць звычайна расійскія заўзятары добра падтрымліваюць украінскіх спартсменаў на трасе і на трыбунах», — расказвае алімпійская чэмпіёнка ў біятлоннай эстафеце ўкраінка Алена Підгрушна.

«Мы бачылі, як рускія заўзятары радаваліся промахам Валі Семярэнка, як рускія заўзятары крычалі нам па трасе, успамінаючы вайну, як крычалі «прамахніся, падайце» і гэтак далей.

Я бегла і не верыла ў тое, што такое могуць крычаць рускія заўзятары. Гэта не тыя людзі, якія выходзяць на трасу і перажываюць за спорт. Тыя крыкі і воклічы, якія былі на трасе, проста не ўкладваюцца ў галаве. Адмаўляюся верыць у тое, што рускія так могуць. А гэта факт», — адзначыла біятланістка.

«Гэта пачалося з першага этапу. Настолькі цяжка было перанесці. Расійкі бок, наадварот, павінен падтрымліваць украінцаў. Ты бяжыш, сілы пакідаюць цябе, а табе ў спіну крычаць такое. Вядома, некаторыя падтрымлівалі. Дзякуй ім за гэта»

# Іспанія, Украіна, Славакія, Беларусь, Македонія, Люксембург

У Ніцы адбылося **лёсаванне адборачнага турніра** да чэмпіянату Еўропы па футболе — 2016.



















Зборная Беларусі трапіла ў групу С. Нашымі супернікамі стануць нацыянальныя каманды Іспаніі, Украіны, Славакіі, Македоніі, Люксембурга.

З дзейнымі чэмпіёнамі свету і Еўропы, іспанцамі, наша зборная гуляла ў мінулым адборы. Галоўны трэнер Кандрацьеў вельмі не хацеў, каб іспанцы ці французы трапіліся нашым зноў. Дома беларусы саступілі з лікам 0:4. Як трапна тады заўважыў Аляксандр Глеб: «Выйшлі, абас...ся». А вось у гасцях, у сонечнай Пальме, далі бой Іспаніі — 1:2.

З украінцамі беларусы гулялі аж сем разоў. Самы драматычны матч між нашымі камандамі быў згуляны ў 2001 годзе. Нашы і ўкраінцы прэтэндавалі на другое месца ў групе. Але ў Мінску беларусы перагарэлі і саступілі з лікам 2:0. Абодва мячы забіў Андрэй Шаўчэнка. Тады Малафееў яшчэ абвінаваціў нашых лідараў Бялькевіча і Хацкевіча ў здачы гульні.

Са славакамі Беларусь перасякалася толькі аднойчы. У далёкім ужо 1996-м у таварыскай гульні ў Нітры нашы былі жорстка бітыя з лікам 4:0. Добрая нагода паквітацца за тую паразу.

З македонцамі дагэтуль ніколі гуляць не даводзілася. Былая Югаслаўская рэспубліка, як і Беларусь, пакуль ніводнага разу не ўдзельнічала ў топ-турнірах.

Што тычыцца Люксембурга, то з гэтай камандай звязаная адна з найбольш ганебных старонак у гісторыі беларускага футбола. 13 кастрычніка 2007 беларусы ў Гомелі саступілі прадстаўнікам Вялікага герцагства з лікам 0:1. Агулам гэта ўжо чацвёрты раз, калі ў групу да Беларусі трапляе Люксембург. Баланс гульняў: тры нашыя перамогі, дзве нічые, адна параза.

На месцы Люксембурга мусіў быць Гібралтар, але з палітычных прычынаў гэтая невялікая зборная не можа гуляць у адной групе з Іспаніяй.

Першы матч беларусы правядуць у верасні супраць Люксембурга ў гасцях.

**ЗП**

**Астатнія групы**

Група A: Галандыя, Чэхія, Турцыя, Латвія, Ісландыя, Казахстан

Група B: Боснія, Бельгія, Ізраіль, Уэльс, Кіпр, Андора

Група D: Германія, Ірландыя, Польшча, Шатландыя, Грузія, Гібралтар

Група E: Англія, Швейцарыя, Славенія, Эстонія, Літва, Сан-Марына

Група F: Грэцыя, Венгрыя, Румынія, Фінляндыя, Паўночная Ірландыя, Фарэрскія астравы

Група G: Расія, Швецыя, Аўстрыя, Чарнагорыя, Малдова, Ліхтэнштэйн

Група H: Італія, Харватыя, Нарвегія, Балгарыя, Азербайджан, Мальта

Група I: Партугалія, Данія, Сербія, Арменія, Албанія.




Дэманстрант разглядае пазалочаную сантэхніку ў прыватнай рэзідэнцыі Віктара Януковіча Міжгор'е. Пасля перамогі паўстання ўскрыліся факты дзікай карупцыі кіраўніцтва Украіны. Старонкі 2-6.




22-23 лютага на лыжаролернай трасе ў мікраараёне Вяснянка прайшлі спаборніцтвы па гонках на сабачых запрэжках «Завіруха-2014». Заезды праводзіліся ў некалькіх катэгорыях: запрэжках-адзіночках, двойках, чацвёрках і шасцёрках. На фота: спартовец з сабакам пароды Хаскі.

На прыпынку грамадскага транспарту на вуліцы Няміга 18 лютага вывесілі бел-чырвона-белыя сцягі і партрэт палітвязня Алеся Бяляцкага.

За ноч на 23 лютага ў Мінску спалілі 9 аўтамабіляў. Выпадкі зафіксаваныя па вуліцах Адоеўскага (у дварах дома № 83, 103), Я.Маўра (у дварах дамоў № 13, 20, 22, 23) і праспекце Пушкіна (у дварах дамоў № № 25, 29). Падазраванага затрымалі.



## Анекдоты і жарты

* * *

— Ало, гэта Фэйсбук?
— Так, слухаем вас!
— Гэта вы купілі WhatsApp за 16 млрд?
— Так, гэта мы.
— А купіце МАЗ?
— Эээ, прабачце, а хто гэта?
— Не важна!

* * *

Януковіч пытаецца ў Цімашэнка:
— Юлія Уладзіміраўна, як правільна пішацца: заЕвленіе ці заЯвленіе?
— Віктар Фёдаравіч, у вашым выпадку — завяшчанне.

* * *

– Сынок, ты ўжо дарослы. Табе пара задумацца аб кар'еры.
– Аб якім кар'еры?

* * *

Асноўная прычына росту дзіцячай злачыннасці — пазлы з 2000 кавалкаў.

* * *

— Дачушка, ты звязалася з кепскаю кампаніяй?
— Не, мама. Я яе заснавала!

* * *

Хочаш адмазацца ад усяго — кажы: «Я творчы чалавек».

* * *

Еxаў я неяк у таксі. Кіроўца быў у выдатным настроі:
— Я люблю сваю працу, —кажа. —Сам сабе начальнік, ніхто мне не ўказ.
І тут я яму кажу:
— Павярніце налева.

* * *

Паддатая вядучая прагнозу надвор'я падчас жывога эфіру пачала паказваць, дзе жыве яе былы.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Запахла порахам.** Газеты зноў загаварылі аб вайне. Еўропа з года на год, як вол даўбні, чакае вялікай, агульнаеўрапейскай вайны. Палітыкі вераць, што гэткая вайна немінуча і, каб утрымаць у Еўропе згоду, з кожным годам еўрапейскія гасударствы павялічваюць свае ваенныя сілы, затрачваючы мільёны мільёнаў на ўтрыманне войска, або, як іншыя кажуць, — аружнага спакою.

**«НН». №9. 1914.**

**Беларуска-расійскі газавы канфлікт.** Пасля кароткачасовага спынення падачы газу 18-19 лютага беларускія і расійскія афіцыйныя асобы працягваюць абменьвацца крытычнымі заўвагамі. «Адбылася істэрыка расійскага кіраўніцтва, выкліканая тым, што беларускі прэзідэнт не ідзе на стратэгічныя саступкі расейцам», —кажа Валер Булгакаў.

**«НН». №8. 2004.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
наméснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 25.02.2014.
Замова №610.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 14008